ПАДПІСКА »БОЖЫМ ШЛЯХАМ« НА 1975 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.
Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.
Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.
Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. F. Žurnia, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N12 8HY.,
Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N 12, азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XXIII** **№ 3-4 (145-146)**
**1975**

*MARIAN HOUSE, HOLDEN AVENUE,*
*LONDON N12 8HY.,*
*GREAT BRITAIN.*

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXIII 1975 № 3-4 (145-146)

*а. Я. Т.*

# УЧАЛАВЕЧАНЬНЕ СЫНА БОЖАГА

Ужо вялікі Арыстотэль, паганскі філязоф, падазраваў, што павінны існаваць нейкія чыстыя бязцялесныя духі, якіх мы называем анёламі. Для нас хрысьціян, веручых у Бога і Богачалавека, аб іхнім існаваньні ня можа быць ніякага сумніву. Аб добрых і злых анёлах ёсьць гутарка шмат у якіх месцах Сьв. Пісаньня.

Не вужака, а бунтаўшчык анёл, прыняўшы від вужакі, загаварыў да нашай прамаці Эвы, каб яе папхнуць у грэх.

У многіх кнігах Старога і Новага Запавету ёсьць гутарка аб добрых і верных анёлах. І так у кн. Быцьця (24, 40) чытаем: »Госпад Бог пашле табе свайго анёла, каторы будзеісьці перад табой і сьцерагчы цябе«. Ды ведаем, як анёл паўстрымаў руку выпрабаванага Божым загадам Абрагама, каб не забіваў свайго сына Ізаака. (Быцьця, 22, 11-12). Анёл Рафаэль быў верным другам і заступнікам Табіі ў ягоным падарожжы і прыгодах, а прарок псальміст заклікае ўсіх анёлаў, каб славілі Бога: »Хваліце Бога вы ўсе анёлы!« (Пс. 102, 20).

А разгарнуць толькі старонкі Новага Запавету! Аб анёлах гавораць нам усе чатыры эвангелісты, апосталы Пётр і Юда ў сваіх пасланьнях, ды апостал Ян у кнізе Аб'яўленьняў.

Гэткім чынам ад бяздушных мінэралаў праз жыцьцё былінак, расьлін і зьвяроў; праз жыцьцё чалавека, абдаранага почувамі і духоўнай сілай розуму і волі і праз жыцьцё найбольш дасканалых стварэньняў — анёлаў — мы пазнаём веліч і красу самога Тварца ўсіх і ўсяго. Неставала яшчэ аднэй дасканаласьці: спалучэньня твору з Тварцом, стварэньня ў істотным спалучэньні з Боскасьцяй самой.

І таму некаторыя багасловы даўнейшых часаў, прыкладам Дун Скот (памёр 1308) думалі, што нават калі-б чалавек і не саграшыў, то ўсёроўна Сын Божы стаўся-б чалавекам, каб сваім учалавечаньнем замкнуць круг дасканаласьцяў у сусьвеце. Такое аднак разважаньне ня мае грунту ў Сьв. Пісаньні. Наадварот. Перадусім знаходзім там Божае абяцаньне збаўленьня чалавека пасьля яго ўпадку ў грэх. У далейшым няцяжка заўважыць, што ўся гісторыя Ізраэля асноўваецца на тым, што чалавек зграшыў і ймкнецца пад асаблівым кіраўніцтвам Божага провіду к таму, каб атрымаць выбаўленьне з ярма грэху праз Мэсыю. Вялікія прарокі, асабліва Ізаяш (чытай 53 разьдзел аб муках слугі Еговы), ясна прарочаць аб тым, што збаўленьне ад Бога прыйдзе праз мукі, цярпеньне, сьмерць і Ўваскрасеньне Мэсыі. Чалавек-бо збунтаваўся супроць неба і зямлі праз непаслухмянасьць і пыху, праз тое, што багасловы назвалі першародным грахом, які перадаецца чалавеку ў самым яго пачацьці ва ўлоньні маткі, як аб гэтым об'яўляе псальміст і навучае Царква.

Сьвяты Тамаш Аквінскі ставіць пытаньне: »Ці Хрыстос учалавечыўся перадусім дзеля першароднага граху?« І адказвае славамі сьв. евангельля: »Вось ягнё Божае, каторае нішчыць грэх сьвету«, (Ян 1, 20). Сьвяты Бэда паясьняе, што грэх сьвету — гэта першародны грэх. А сьвяты Тамаш Аквінат прадаўжае разьвіваць гэта пытаньне: Хрыстос прыйшоў на сьвет ня толькі дзеля зьнішчэньня таго граху, які называем першародным, а які перадаецца бацькамі кожнаму патомку Адама і Эвы, але і дзеля зьнішчэньня ўсіх грахоў, якія чалавек робіць славамі, чынам або нават у думцы.

Аднак Хрыстос нікога не збавіць супраць ягонай вольнай волі. І таму чытаем у евангельлі: »Прыйшоў да сваіх і яны Яго не прынялі«, (Ян І, ІІ). »Сьвятло прыйшло на сьвет, а людзі болей узлюбілі цемру, чым сьвятло«, (Ян 3, 19).

Але будзем трымацца нашай галоўнай тэмы і таму пасьпяшым у Назарэт туды, дзе

жыла Дзева Марыя, заручаная з Язэпам з дому Давіда цара. Аднойчы, калі гэта маладая сьвятога жыцьця жанчына была ў глыбокім задуменьні на малітве, раптам зьявіўся прад ёю незвычайна прыгожы юнак не ад зямлі гэтай і адазваўся да яе: »Прывітана будзь, поўная ласкі, Госпад з табою, багаслаўлена ты між жанчынаў«. (Л. 1, 28).

— О Божа! Што гэта такое? Здань, спакуса . . . Адыйдзі ты ад мяне! —

А анёл Габрыель у прыгожым выглядзе юнака сказаў: »Ня бойся, Марыя, бо ты знайшла ласку ў Бога; вось зачнеш у лоне і родзіш сына і назавеш імя яго Ісус. Ён будзе вялікі і будзе названы Сынам Найвышэйшага; і дасьць яму Госпад Бог пасад Давіда, бацькі яго; і будзе валадарыць у доме Якуба і валадарству яго ня будзе канца«. (Л. 1, 30-33).

Марыя зноў у вялікай трывозе загаварыла: »Як-жа гэта станецца, калі я мужа ня знаю?«, іншымі славамі: калі я незамужняя дзева. Тады анёл паясьніў: »Дух сьвяты зыдзе на цябе і сіла Найвышэйшага ацяніць цябе, вось чаму і тое, што народзіцца з цябе Сьвятое, будзе названае Сынам Божым«. (Л. 1, 34-35). А каб упэўніць Марыю у запраўднасьці гэтага цуду, ён выявіў перад Марыяй іншы — хаця й не такога значэньня — цуд: »І вось Альжбета, сваячка твая, і яна зачала сына ў старасьці сваей і гэты шосты месяц у тае, каторую завуць няплоднай. Бо ў Бога ня будзе немагчымым ніводнае слова«. Марыя-ж уважна выслухаўшы анёла пакорна і паслухмяна сказала: »Вось я слуга Госпада, няхай мне станецца паводле твайго слова. І адышоў ад яе анёл«. (Л. 1, 36-38).

»У тую хвіліну даканалася вялікая тайніца ўчалавечаньня Сына Божага. Дух Сьвяты ў лоне Дзевы Марыі ўтварыў цела Хрыста, злучыў яго з створанаю тады-ж людзкою душою і гэтая натура людзкая была злучана з Божай Асобай Слова. Бог-чалавек пачаў існаваць, а Марыя сталася маткай Бога«. (а. В. Гадлеўскі, Чатыры Эванэліі і Апостальскія Дзеі, Вільня, 1939, с. 168).

У тую хвіліну пачалася новая эра ў гісторыі чалавецтва. Дагэтуль знаходзілася яно ў руках сатаны-зводніка, заснавальніка валадарства цемры, злачынстваў, усялякіх пошасьцяў і грахоў, заўсёды-ж ведама выкарыстоваючы слабасьці чалавека і кружачы навокал яго як той леў рыкаючы, каб яго злавіць і пажэрці. Ад гэтага-ж часу сьвет належыць Яму — Богачалавеку. Ён за яго будзе цярпець страшэнныя мукі, будзе ўкрыжаваны, але і ўваскрэсьне як Божы Пераможца, поўны славы і запраўднай велічы. Яго валадарству ня будзе канца і перад Ім схіліцца ўсякае калена пачуўшы Яго імя у небе, на зямлі і пад зямлёй. (Філіп. 2, 10).

Чаму?

Бо Ісус ёсьць Бог, Сын Божы і сын чалавечы — Богочалавек.

Учалавечаньне Слова сталася ў асобе Божай. Паводле халкідонскага сабору (451 г.) »прызнаём аднаго і таго самага адзінароджанага Сына, Бога Слова Госпада нашага Ісуса Хрыста не на дзьве асобы падзеленага«. У Ісусе Хрысьце астаюцца дзьве розныя натуры: людзкая і Божая, але адна асоба. Ізноў той-жа выдатны багаслоў Тамаш Аквінскі кажа: »Калі людзкая натура ня ёсьць спалучанай у асобе Слова Бога, то ў такім выпадку няма спалучэньня зусім, а гэткае цьвярджаньне зруйнавала-б хрысьціянскую веру. Дзеля таго, што Слова мае людзкую натуру з сабой спалучаную, але не належачую да Божай натуры, дык вывад можа быць толькі адзін: спалучэньне адбылося ў асобе Слова, а не ў натуры«. (P. III, q. 2, art. 2). Спалучэньне гэта зьяўляецца субстанцыяльным, сутным, дзеля якога Хрыстос ёсьць праўдзівы Бог і праўдзівы чалавек. Сьвяты Аўгустын выказаў тую самую праўду: »Бог стаўся чалавекам, каб чалавек стаўся Богам«. "Factus est Deus homo, ut homo fieret Deus". (De Nativ. Dom., 13).

Целам сталася Слова Бога і між намі прабывала і прабывае.

Слава на вышынях Богу, а на зямлі супакой людзям добрай волі!

*

КОЖНЫ ПРАДБАЧЛІВЫ ЧАЛАВЕК ПАВІНЕН АФОРМІЦЬ СВОЙ ТАСТАМАНТ.

КОЖНЫ БЕЛАРУС ПАТРЫЁТ ПАВІНЕН ПОМНІЦЬ АБ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ І МУЗЭЮ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

*а. Т. ПАДЗЯВА*

# ДОБРАЯ НАВІНА — XV-АЯ КАТЭХЭЗА

## БОГ ПРЫРАКАЕ ЛЮДЗЯМ ПАСЛАЦЬ ЗБАВІЦЕЛЯ

У кнізе Быцьця гаворыцца аб тым, як Бог, пакараўшы першых людзей за грэх, зьвярнуўся да зьмея, які іх ашукаў, з наступнымі славамі: »Пасею варожасьць паміж табою і жанчынаю, паміж патомствам тваім і патомствам яе: яна скрушыць табе галаву, а ты будзеш старацца кусаць яе ў пяту«. (Быцьця 3, 14-15).

Чалавек адышоў ад Бога, які ёсьць Любоўю і хоча вярнуць чалавеку дружбу, лучнасьць з Сабой і асвабадзіць яго ад уплыву чарта. І вось Бог абяцае пасеяць варожасьць паміж чартом і жанчынаю, паміж патомствам чарта і патомствам жанчыны. Патомства жанчыны ў канцы пераможа, бо скрушыць галаву злыдні, тады як ён будзе кусаць яе ў пяту.

Багасловы бачуць у гэтых словах больш чым эгзэгеты, якія стараюцца пазнаць тое, што хацеў сказаць сам аўтар кнігі Быцьця, ды яшчэ што меў у думцы. Ў апошнім часе яны досыць згодна ўважаюць, што аўтар меў на думцы толькі змаганьне чалавека з чартом, бо яму Бог так абяцаў памагчы перамагаць »зло дабром« (Быцьця 17,21) і больш нічога. Аднак багасловы ўважаюць, што Бог у гэтых словах аб'явіў куды больш, чым мог зразумець сам чалавек, які нам гэтае аб'яўленьне напісаў.

Першае пытаньне, хто гэтая жанчына, паміж якой і чартом Бог сам пасеяў варожасьць?

Тут ёсьць толькі тры магчымасьці: 1) Жанчына гэтая Эва, 2) жанчына азначае наагул усіх жанчынаў, а тым самым увесь чалавечы род, і 3) гэта будзе нейкая асобная жанчына, паміж якой сам Бог пасее такую варожасьць, як паміж патомствам чарта і ейным. Багасловы адкідаюць першую і другую магчымасьць. Паводле аўтара натхнёнай Кнігі Эва дружыць са зьмеям і пэўнеж Бог можа гэтую дружбу разбурыць ды замяніць у варожасьць, а нават у змаганьне, але ў жыцьці Эвы мы нідзе нічога такога ня бачым. І ў жанчын мы няраз заўважваем нейкую дзіўную сымпатыю да гадаў: колькі іх мроіць, каб насіць хоць абутак са зьмяінай скуры! І торбачкі, паясы ад розных гадаў, панчошкі разрысаваныя пад вужаку. Усё гэта зусім ня сьведчыць аб нейкай нязвычайнай варожасьці жанчынаў да зьмеяў.

Але вось трэцяя магчымасьць сапраўды заслугоўвае на ўвагу, бо ёсьць у гісторыі адна жанчына паміж якой і чартом ніколі ня было дружбы, бо толькі яна адна нарадзілася на сьвет бяз першароднага грэху і то таму, што Бог выбраў яе на Матку свайму адзінароднаму Сыну і ня мог Бог дапусьціць, каб чорт мог пахваліцца, што сама Божая Маці была ў ягонай няволі. Таму Бог стварыўшы ейную душу, надзяліў яе таксама надпрыродным жыцьцём, аказаўшы збаўленьне першай зь людзей, як Матцы Збавіцеля. Гэтым Бог пасеяў і варожасьць паміж чартом і ею, як паміж грахом, як патомствам чарта і паміж Сынам Божым — патомкам жанчыны.

Ясна, што паміж грахом і Хрыстом не магло быць ніколі дружбы, а Хрыстос ёсьць патомствам тае адзінае жанчыны, паміж якой і чартом існуэ такая самая варожасьць. Да гэтых высноваў даходзяць багасловы, бяручы пад увагу ўсе тэксты Сьвятога Пісаньня, у якіх высказана гісторыя выратаваньня людзей.

Сьвяты Павал так об'ясьняе значэньне Божага прырачэньня: Хрыстос як галава чалавецтва пераможа чарта. »Валадар« гэтага сьвету не патрапіць адвесьці Хрыста ад Бога, хоць будзе спакушаць Яго. (Мат. 4, 11). Павал называе Хрыста другім Адамам. Як першы Адам прынёс на зямлю грэх, непаслушэнства, сьмерць і кару, так другі Адам прынёс ласку, паслушэнства справядлівасьць і жыцьцё. (Кар. 1, 15, 45-49; Рым. 5, 12-21). Гэты направіў тое, што той папсаваў і зрабіў гэта праз паслушэнства Богу. Таму сьв. Павал называе Хрыста новым чалавекам, а ягонае дзела абнаўленьнем усяго (Эф. 1, 10) або новым стварэньнем (2 Кар. 5, 17).

Маці Хрыстова Марыя будзе »другой Эвай« чалавецтва. Свабодная ад першароднага грэху, або Непавінна Пачатая, ніколі не саграшыць і не пападзе ў няволю чарта. Як Маці Выратавальніка (Збавіцеля) Яна будзе Маткай »новага стварэньня«.

Гэтак вось прырачэньне ў раі абяцала людзям Выратавальніка. Таму гэты тэкст завецца »Протоевангельлем«, г. зн. »першай Добрай Навіной« аб выратаваньні. Гэтую »Добрую Навіну« передавалі людзі з пака-

леньня ў пакаленьні, аж пакуль ня споўнілася ў Ісусе Хрысьце.

Ад прырачэньня ў раі людзі пачалі чакаць на Выратавальніка. На памятку аб гэтым поўным тугі чаканьні Царква ўстанавіла пост, які ў лацінскім абрадзе называецца адвэнт, што азначае чаканьне на прыход. Цяпер мы чакаем на другі прыход Хрыста, калі абʼявіцца ўся паўната »новага стварэньня«.

НАШ АДКАЗ БОГУ: Хачу супрацоўнічаць з Хрыстом і з Ягонаю Маткаю ў змаганьні за канчатковую перамогу над грэхам.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ:
Божа, Ты цераз пакуту Твайго Хрыста, а нашага Госпада, зьнішчыў сьмерць, якая была вынікам старога грэху і як спадчына перайшла на ўсе наступныя пакаленьні, зрабі, каб мы стаўшыся падобнымі да Хрыста цераз асьвячаючую ласку так насілі Божы вобраз, як з прымусу мы насілі кляймо адамавай натуры. (З лацінскае Літургіі ў Вялікую Пятніцу).

ПЫТАНЬНІ ДА XV-ай КАТЭХЭЗЫ:

25) *Што прырок Бог людзям у раі?*

АДКАЗ: *Бог прырок людзям у раі змаганьне з чартом і перамогу над ім.*

26) *Калі людзі перамаглі чарта?*

АДКАЗ: Людзі перамаглі чарта тады, калі Ісус Хрыстос, »другі Адам«, праз сваю сьмерць і ўваскрасеньне пагадзіў іх з Богам.

———*———

*а. Аляксандар НАДСОН*

# НОВЫЯ НАБЫТКІ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ

Нядаўна здарылася важная для кнігалюбаў падзея: у часе ад 28 лістапада да 1 сьнежня ў Монтэ Карлё адбыўся аўкцыён бібліятэкі Дзягілева. Ведамы расейскі дырэктар балету быў таксама вялікім кнігалюбам і апошнія гады свайго жыцьця ён пасьвяціў зьбіраньню рэдкіх кніг, пераважна расейскіх. Пасьля сьмерці Дзягілева ў 1929 г. ягоная бібліятэка перайшла ў рукі ягонага вучня Сяргея Ліфара, які апошнім часам вырашыў прадаць яе.

Аўкцыён перадусім зацікавіў любіцеляў расейскай кнігі. Гэта зусім зразумела, калі ўзяць пад увагу, што ў бібліятэцы Дзягілева знаходзіліся такія рэдкасьці, як »Апостал« выдадзены ў Маскве ў 1564 г. Іванам Фёдаравым і Пятром Мсьціслаўцам, цэлы рад маскоўскіх друкаў XVII-XVIII стагоддзяў, першыя выданьні твораў Пушкіна, Гогаля, Тургенева, Талстога і інш. Сярод усіх гэтых расейскіх кніжных скарбаў знайшлася таксама невялікая колькасьць беларускіх выданьняў XVI-XVIII стагоддзяў. Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане пастанавіла зрабіць усё магчымае, каб купіць іх, у выніку чаго ейны кніжны фонд узбагаціўся некалькімі вельмі рэдкімі і цэннымі беларускімі старадрукамі.

Найбольш цэнным набыткам зʼяўляецца без сумненьня фрагмэнт »Бібліі« Скарыны. Больш дакладна, гэта два аркушы з »Першай кнігі царстваў«, выдадзенай Скарынам у Празе ў 1518 г. Аркушы прадстаўляюць сабою поўны сшытак з чатырох лістоў (па два на кожным аркушы) з чарговай нумарацыяй 19-22 і з тэкстам 10 і часткова 9 і 11 разьдзелаў кнігі. У тэксьце дзьве ініцыяльныя літары: В (л. 20а) і Б (л. 22). Папера аркушоў з плямамі і з пашчэрбленымі берагамі, але тэкст захаваўся непашкоджаным.

У параўнаньні з іншымі Скарынінскімі выданьнямі »Кнігі царстваў« не зʼяўляюцца асаблівай рэдкасьцю. Коршунаў налічыў аж шаснаццаць ведамых яму цэлых і фрагмэнтарных экзэмпляраў гэтай кнігі у розных — пераважна савецкіх, — бібліятэках.[1]) У сваім пераліку ён памінуў семнаццаты экзэмпляр, які знаходзіцца ў Брытанскім музэі ў Лёндане. Ня гледзячы на гэта набытыя Бібліятэкай Ф. Скарыны аркушы маюць вялікую вартасьць. Галоўная цікавасьць іх у тым, што яны ніколі ня былі пераплецены

[1]) **Коршунаў А.** Кароткі каментарый да выданняў Францыска Скарыны. У кн.: Францыск Скарына. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., »Навука і тэхніка«, 1969, стар. 204.



**Старонкі »Новага завету« (Вільня 1623)**

ў кнігу. У скарыназнаўчай літаратуры ўжо ведамы такія аркушы, знойдзеныя яшчэ ў XIX стагоддзі ў пераплётах гарадскіх кніг горада Вроцлава. Сымон Брага ў 1964 г. зрабіў спробу выясьніць гэты факт тым, што магчыма непераплеценыя аркушы Скарынінскіх выданьняў былі сканфіскаваныя ў Вроцлаве пры іх перавозе з Прагі ў Вільню[2]) Цікава тое, што сярод знойдзеных у Вроцлаве аркушоў няма ніводнага з »Кніг царстваў«, затое два ідэнтычныя фрагмэнты знаходзяцца ў Кэмбрыджы: адзін ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы, а другі ў бібліятэцы Трыніты Коледж. Усё гэта толькі паказвае, што вывучэньне спадчыны беларускага першадрукара яшчэ далёка не закончана.

Другой кнігай, якую Бібліятэка купіла на аўкцыёне, з'яўляецца »Новы завет«, выдадзены Сьвятадухаўскім праваслаўным брацтвам у Вільні ў 1623 г. У экзэмпляры няма першых лістоў, уключна з тытульным, але евангельскі тэкст захаваўся поўнасьцю. Мова выданьня царкоўнаславянская і не выклікае асаблівай цікавасьці. Затое кніга зьвяртае на сябе ўвагу сваей мастацкай вонкавай формай, прыгожымі гравюрамі евангелістаў, застаўкамі і арыгінальнымі кінаварнымі ініцыяльнымі літарамі на пачатку кожнага з чатырох евангельскіх тэкстаў і Апостальскіх дзеяньняў.

Бібліятэка таксама купіла экзэмпляр куцеінскага »Новага завету« 1652 г. Характэрнай рысай гэтага выданьня з'яўляюцца камэнтарыі на беларускай мове да царкоўнаславянскага евангельскага тэксту. Гэта ўжо другі экзэмпляр гэтай кнігі ў Бібліятэцы: першы быў куплены ў 1972 г. Выкладчык Лёнданскага ўнівэрсытэту Г. Лімінг надрукаваў у »Журнале беларускіх студыяў« за 1974 г. сваё дасьледваньне мовы гэтага выданьня.[3])

[2]) **Брага С.** Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны. »Запісы« (Беларускі Інстытут навукі і мастацтва), кн. 3, Мюнхэн 1964, стар. 25-28.

[3]) **Leeming H.** The Language of the Kucieina New Testament and Psalter of 1652. "The Journal of Byelorussian Studies", Vol. III, No. 2, London 1974, pp. 123-144.


ЦАРЬСТВЪ

Старонка »Першай кнігі царстваў« Скарыны (Прага 1518)


ЕЖЕ ѾМАТѲЕА СТГОЄѴАНГЕЛІѦ ЗГЛАВЛЕНІЕ

Старонка »Новага завету« (Вільня 1623)

Вартыя ўвагі дзьве кнігі супрасьлскага выданьня. Першая з іх, »Литургикон си есть служебник«, выйшла ў 1695 г. і з'яўляецца дакладнай копіяй аднайменнага віленскага выданьня 1692 г. Ініцыятыва выданьня гэтага служэбніка належыць вуніяцкаму мітрапаліту Цыпрыяну Жахоўскаму (1674-93). Сваім зьместам і ўкладам матар'ялу ён значна розьніцца ад традыцыйных служэбнікаў бізантыйскага абраду і хутчэй напамінае лацінскі мшал, на які ён нават падобны сваім вонкавым выглядам (кніга надрукаванная разьмерам у ліст). Побач з тэкстамі трох літургіяў (сьв. Яна Залатавуснага, Васіля Вялікага і Раней пасьвячаных дароў) укладальнікі памясьцілі ў кнізе антыфаны, трапары і кандакі, а таксама апостальскія і евангельскія чытаньні на нядзелі і сьвяты ўсяго году. Відаць такое выданьне сталася патрэбным, калі сярод вуніяцкіх сьвятароў пачаў распаўсюджвацца звычай служыць г. зв. »ціхую«, або »чытаную« літургію. У сярэдзіне кнігі цікавы ўласьніцкі запіс: »Сеі Служебнік ест закрыстыи Церкві Бытенской Чыну Свіатаго Васіліа Велікаго 1765 Лето подписан«.

Другая кніга, якая выйшла ў Супрасьлі ў 1722 г., называецца »Собрание припадков краткое и духовным особом потребное«. Гэта даволі абшырны падручнік навукі аб сьвятых тайнах і галоўных праўдах хрысьціянскай веры для вуніяцкіх сьвятароў. Мова выданьня беларуская, але з моцнымі ўплывамі польскай і царкоўнаславянскай. Апошні, шаснаццаты, разьдзел побач з беларускім тэкстам мае паралельны пераклад на польскую мову. Да »Собрания« прыплецены »Лексикон«, або царкоўнаславянска-польскі слоўнік, выдадзены таксама ў Супрасьлі ў 1722 г. Ён прызначаны для сьвятароў, якія часта ня ведалі царкоўнаславянскай мовы і таму не разумелі літургічных тэкстаў. Два апошнія выданьні сьведчаць з аднаго боку аб захаваньні беларускай мовы ў царкоўным ужытку Вуніяцкай царквы ў Беларусі ў XVIII стагоддзі. З другога боку яны з'яй-



Книги первый

Ниже ЅІ
Ісаі ЗА

Възем же Самуилъ рогъ с олеемъ вы
лилъ и естъ на главу Саулу, и поцаловал
его. И рече к нему се помазалъ тебе гдь
на црство над достоянием своимъ, ты изба
вишъ людей его из руку врагов их иже суть около их.

Выше Б

А то будеть тобе зазнамение яко помазалъ тя гдь
на црство. Внегда отидеши от мене днесь, знайдеши

Быт ЛЕ

два мужа у гробу Рахилина на пределех Бениами
новыхъ ополудни, и рекуть к тобе знашли суть ос
лице их же отходилъ есь искат, и нехавши отець твой
ослиць печалуется о васъ гла, что учиню о сыну
моем. И внегда отидеш отуду и далей пойдешъ
и придеш къ дубу Фаворъ, стретать тя с тобою три
мужи въсходящие к Вефиль приносити жрътву
богу. Един несущие трое козлят, а который три ко
лачи хлебовъ, третий же неся лагвицу вина. И егда по
здравят тебе дадуть ти два хлебы, и возмеши от ру
ку их. Потом възойдеш наверхъ горы Гдьни, где е
становище филистымское. И внегда ту вниидеши
въ градъ, стретать тя с тобою ликъ прроковъ исту
пующих с горы. А пред ними псалтырь и тимпанъ:
и сопреле и гусле, они же прорекующе. И въступит

Старонка »Першай кнігі Царстваў« Ф. Скарыны (Прага 1518)

ляюцца сумнымі дакумантамі паступовай палянізацыі вуніяцкага духавенства.

Апошняй кнігай беларускага выданьня, набытай Бібліятэкай Ф. Скарыны, з'яўляецца »Альфа и омега«, якая выйшла ў Вільні ў 1786 г. Кніга задумана ўкладальнікам, як »изображение истиннаго христианскаго жития, паче же иноческаго, от множаиших святых, собрано по числу литер словенских, ради удобнеишаго обретения, зело душеполезно«. Напісаная на царкоўнаславянскай мове, яна цікавая як прыклад беларускіх старадрукаў апошняга перыяду, незадоўга да таго, як Беларусь папала пад уладу Расеі.

Апрача беларускіх кніг Бібліятэка купіла некалькі кіеўскіх і львоўскіх выданьняў XVII стагоддзя, у тэксце або вонкавым афармленьні якіх адчуваецца сувязь з беларускімі старадрукамі, а таксама дзьве важныя бібліяграфічныя працы: »Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами« І. Каратаева (СПб. 1883) і »Описание старопечатных и церковно-славянских книг, хранящихся в библиотеке С.-Петербургской духовной академии« А. Радоскага (СПб. 1891).

Кошты куплі беларускіх старадрукаў перавысілі 2500 фунтаў. Такі вялікі выдатак быў бы немагчымы для Бібліятэкі, калі б не ахвярнасьць шматлікіх беларусаў з усіх канцоў сьвету, якія, разумеючы важнасьць справы, прыйшлі ей са шчодрай дапамогай. Сёньня яны могуць мець маральнае задавальненьне, што дзякуючы ім беларускія культурныя скарбы не ўзбагачваюць якуюнебудзь чужую ўстанову ці прыватную калекцыю, але захоўваюцца ў беларускай бібліятэцы, дзе яны даступны для ўсіх тых, якія цікавяцца пытаньнямі разьвіцьця беларускага кнігадрукаваньня і беларускай культуры наогул.

———oOo———

*Ч. С.*

# АЙЦЕЦ ТАМАШ ПАДЗЯВА (1906-1975).



Нарадзіўся 6 лютага 1906 г. ў вёсцы Пярхулева, Друйскай парахвіі з бацькоў Габруся і Марцыянны з дому Трышчынская. Уступіў у навіціят закону Марыянаў у Друі ў 1926 г. У той-жа Друі будучы сьвятар Тамаш Падзява вучыўся ў гімназіі і скончыў яе ў 1929 г. У тэтым самым годзе выехаў у Рым на далейшыя студыі. У 1931 г. канчае філязофію са ступенькай доктара, а ў 1935 г. скончыў тэалёгічныя студыі і здабыў навуковую ступень ліцэнц'ята тэалёгіі. Усе вышэйшыя студыі адбываў на папскім грэгарыянскім унівэрсытэце. 23 сьнежня 1934 г. быў высьвячаны Я. Д. Біскупам Мікалаем Чарнэцкім на сьвятара. Год пазьней, па заканчэньні студыяў, выехаў у Харбін, дзе кіраваў каталіцкай усходняй епархіяй а. Архімандрыт Фабіян Абрантовіч. Тут а. Тамаш Падзява спаўняў абавязкі выхаваўцы ў ліцэі сь. Мікалая, а таксама настаўніка рэлігіі і спавядніка. Пісаў шмат у »Каталічэскім Весніку«, асабліва на тэму царкоўнай еднасьці і сацыялогіі. У гадох 1938-39 быў магістрам навіцыяту, з якога выйшлі і сталі сябрамі марыянскага закону а. Юры Бранчанінаў і біскуп Андрэй Каткоў.

22 сьнежня 1948 г. жаўнеры кітайскае камуны схапілі пяць сьвятароў і двух настаўнікаў ліцэя сь. Мікалая і вывезьлі іх да самай граніцы з Савецкім Саюзам і там прадалі іх савецкім энкавудыстам, а гэтыя адвязьлі ў горад Чыту ва ўсходняй Сібіры і пасадзілі іх ў ваенную турму. Сярод тых сьвятароў былі айцы Андрэй Цікота, Язэп Гэрмановіч і Тамаш Падзява.

На сьледстве прызналі успомненых тут



айцоў шпіёнамі японскімі і ватыканскімі і далі **бяз суду** па 25 гадоў лягераў. У 1949 г. саслалі ў гарадзкую турму ў Іркуцку, а стуль у лягер Нр. 0,25 гораду Тайшэт. У Тайшэце айца Архімандрыта А. Цікоту і а. Язэпа Гэрмановіча залічылі да інвалідаў, значыць мелі аставацца вольнымі ад работ, аднак высылалі на розныя работы пад пагрозай карцэру. Айца Тамаша Падзяву прызналі рабочым першай катэгорыі і пасылалі яго, на »каменны кар'ер«, а таксама на »лесапавал«, на работы жалезаной дарогі і інш. На працягу пяці гадоў а. Тамаш значна падарваў свае сілы, найбольш праз дрэннае харчаваньне, бо кармілі пераважна двумя патравамі: зупай з аўсянкі, ячменя або проса і такой самай кашай. Усё было вельмі скупа акрашана, ані малака, ані мяса ніхто не бачыў. Рыба — траска, перасоленая, ажно нельга было ўзяць у рот.

З расказаў а. Тамаша запамяталіся два наступныя здарэньні з ягоных лягерных пакут.

Аднаго разу, калі ён натужна працаваў у камяняломах, раптам пачуў унутры сваей сьведамасьці голас: »Уцякай! Хутчэй уцякай!..« Ледь толькі ён здолеў адскочыць з месца, дзе працаваў, на некалькі мэтраў і бачыць, як вагромністая каменная сьцяна рушылася акурат туды, дзе ён знаходзіўся перад хвілінай. І так жыцьцё было ўратаванае! Ці ня добры анёл падшапнуў айцу Тамашу ў час уцячы? Іншым разам, калі а. Тамаш праходзіў каля лягернай вязьніцы, з верхніх камэраў высуналася некалькі галоў блатных, нехта кінуў пад яго ногі быццам пачку з рэчамі і крыкнуў: »Эй ты, перадай гэта ў ніз у вязьніцу!...« Такім чынам блатныя перадавалі сваю пасылку сябрам у падвале турмы. Айцец Тамаш узяў той выкінуты жмут, зайшоў у турму і запраўды там хутка адабралі ад яго »пасылку«, а ён сам выйшаў адтуль нікім не патурбаваны. Блатныя білі яму брава, а сам ён толькі пазьней спасьцярог, што сваё гэройства мог налажыць жыцьцём.

Пасьля сьмерці Сталіна за рэжыму Хрушчова ў 1955 г. а. Тамаш Падзява быў звольнены і тады, як быўшы польскі грамадзянін, прыехаў у Польшчу. Тут ён прабыў 13 гадоў. Лячыўся, працаваў як прафэсар праз нейкі час у сэмінарыі, прымаў дзейны удзел на экумэнічных зборках, пісаў артыкулы аб Дастаеўскім, або духовасьці ўсходняга хрысьціянства, аб падзеле між Усходам і Заходам. У Польшчы а. Тамаш цешыўся пашанай моладзі, а ў некаторых кругах інтэлігенцыі быў аўторытэтам у пытаньнях літургіі і наагул усходняга абраду.

У 1969 г. удалося выехаць а. Тамашу ў Рым, які ён так добра пазнаў у час свайго студэнцтва, а якога старадаўнасьці і красу умеў цаніць і любіць як мала хто іншы. Быў сябрам марыянскай капітулы і няраз зьдзіўляў прысутных, ня гледзячы на свой век і свае перажываньні ў лягерах, вельмі-ж навачасным падыходам да жыцьця і да сучасных пякучых праблемаў.

7 лютага 1969 г. быў прыняты Кардыналам Дэ Фюрстэнбэрг, прэфэктам Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, а таксама Архібіскупам Марыё Бріні, сваім сябрам з часаў рымскіх студыяў. Кардынал Дэ Фюрстэнбэрг падарыў тады айцу Тамашу залаты крыж, як пачэсную адзнаку за ягоную працу для дабра Царквы і як знак удзячнасьці асабліва за перажытыя цярпеньні ў савецкіх лягерах. Такі крыж звычайна даруецца толькі вельмі выдатным царкоўным дастойнікам і дзеячам. Наступнага дня а. Тамаш падзякаваў яшчэ раз лістом кардыналу: »Усхвалёваны Вашай ласкавасьцю, зь якой Вы мяне ўчора прынялі, асьмельваюся выказаць маю ўдзячнасьць лістоўна. Шмат я меў у маім жыцьці крыжоў, ніколі аднак лягчэйшага і салодшага ад таго, які Вы мне ўчора былі ласкавыя падараваць...«

Крыж гэты сяньня знаходзіцца ў Беларускім Музэі ў Лёндане, куды перадаў яго сам а. Тамаш.

Жаданьнем айца Тамаша, наканец трапіўшага ў вольны сьвет, было папрацаваць для свайго беларускага народу. Гэта ён заявіў перад сваімі супэрыёрамі ў Рыме.

У Лёндан прыехаў у жніўні 1969 г. Апрача абавязкаў раднага і сакратара рады дому Айцоў Марыянаў а. Тамаш прыгожа і дастойна служыў для вернікаў сь. Літургію, гаварыў беларускія казані, пісаў перадачы ў Ватыканскае Радыя (Беларускі Сэктар), артыкулы ў »Божым Шляхам«, адведваў сваіх суродзічаў. Здароўе аднак ягонае ўсьцяж пагоршывалася, мучылі яго рэўматызм і астма. Прастудзіўся. 2-га кастрычніка 1975 г. зусім злёг. Паклікалі доктара. Гэты заразжа выслаў у шпіталь. Здолеў аднак пры поўнай сьведамасьці выспавядацца ў а. Я. Гэрмановіча і прыняць апошнія тайны. Вынясьлі ў амбулянс, павязьлі ў Барнэт Госпіталь, а радам з ім сядзеў а. Аляксандар Надсон. Не пасьпелі аднак даехаць да бальніцы, ў дарозе аддаў Богу душу. 9 кастрычніка пры удзеле шматлікіх сьвятароў (прыбыў на похараны таксама а. Язэп Сельскі, цяперашні генерал Айцоў Марыянаў) і вернікаў. Пахаваны на могілках Дзевы Марыі, Фінчлі, там дзе брат Станіслаў Даджанс, дзе беларусы Дамінік Аніська і Барбара Марцінкевіч.

Адыйшоў ад нас чалавек вялікіх здольнасьцяў. Знаў ён добра некалькі моваў: апрача беларускай польскую, расейскую, нямецкую, італьянскую, лацінскую. Чытаў і крыху ў патрэбе гутарыў па ангельску. Цікавілі яго розныя веды. Апрача філязофіі і тэалёгіі ён займаўся астраноміяй, літаратурай, любіў клясычную музыку. Меў нязвычайна добрую памяць. Быў цікавым дакладчыкам і прамоўцай. Ня ўмеў гаварыць коратка. Характэрным для а. Тамаша ёсьць і тое, што паходзіў з сям'і, якая выдала аж трох сьвятароў: два з іх належалі да закону Айцоў Марыянаў, а адзін наймалодшы Альфонс зьяўляецца сябрам Салезыянаў. Усе яны былі ад маладых гадоў сьведамымі беларусамі, бо іхні бацька, які жыў у Аргентыне і там памёр, быў сьведамым і інтэлігентным вяскоўцам. Зусім прыпадкова падарыў у Беларускую Бібліятэку сп. Гайдзель з Розарыё ў Аргентыне свае беларускія кніжкі (віленскія выданьні), якія ён сам атрымаў ад Гаўруся Падзявы. На аднэй з іх характэрны подпіс: »Валадар Габрыель Подзява«. »Валадар« без сумніву замест »уласьнік« той кніжкі.

Каб іншыя абставіны зложыліся ў жыцьці а. Тамаша Падзявы, магчыма, Беларусь мела-б у яго асобе выдатнага філязофа, гуманісту, пісьменьніка. А дзеля тых цяжкіх неспрыяльных абставінаў у якіх ён мусеў жыць і працаваць пакінуў ён па себе толькі сьлед усяго вышэй успомненага і добрую памяць, як добрага чалавека і сьвятара.

Вечны яму супакой!

— oOo —

*СЯБРА*

# ВІКТАР АСТРОЎСКІ (1912-1975)

Дня 31-га жніўня 1975 г. у Лёндане закончыў сваё зямное падарожжа выдатны беларускі патрыёт і навуковец Віктар Астроўскі. Радзіўся ён у Засімавічах каля Пружан. Бацька яго ведамы беларускі дзеяч Радаслаў Астроўскі, Старшыня Беларускай Цэнтральнай Рады за часаў нямецкай акупацыі Беларусі. Віктар скончыўшы Віленскую Беларускую гімназію праз два гады студ'яваў права на Віленскім Унівэрсытэце, належыў да Беларускага Студэнцкага Саюзу, а пасьля да Беларускай Студэнцкай Карпарацыі пры ўспомненым Унівэрсытэце »Скарыняя«. Прыймаў таксама актыўны ўдзел у іншых грамадскіх арганізацыях. Пасьля пераехаў у Пазнань, дзе пара гадоў перад вайной скончыў Агранамічны Факультэт пры Пазнанскім Унівэрсытэце з навуковым тытулам інжынера агранома.

У кастрычніку 1939 г. быў арыштаваны Савецкімі Ўладамі ў Калёніі Віленскай і завочна засуджаны спэцыяльным Маскоўскім Трыбуналам на 8 гадоў цяжкіх лагерных работ у Варкуце (Сібір) ведамым як лагер сьмерці, адкуль, у нармальных абставінах, амаль ніхто жывым не выходзіў. Як быўшы польскі грамадзянін меў магчымасьць увайсьці ў армію ген. Андэрса, у якой прабыў аж да заканчэньня 2-ой Сусьветнай вайны. Пасьля дэмабілізацыі працаваў у Англіі як звычайны работнік у шахце каменнага вугля, а праз апошнія 20 гадоў як інжынер-даглядчык машын у друкарскім прадпрыемстве ў Лёндане.

Увесь свой вольны час ад працы пасьвяціў на студыі, асабліва гістарычных мапаў, і на выдаваньне друкаванага слова пра Беларусь, пераважна ў ангельскай мове. Як спадчыну гэтае нацыянальна-культурнае працы ён пакінуў наступныя выданьні:

1) Spotlight on Byelorussia and her Neighbours, London, 1959.

2) Outlines, London, 1960.

3) Anti-Semitism in Byelorussia and its origin, London, 1960.

4) Russia the suburb of hell from Ivan Kalita to Khrushchev Nikita, London, 1961.

5) Fragments from the history of Byelorussia, London, 1961.

6) Mr. Dean Rusk, "English jargon" UNESKO, Politics and Byelorussia, London, 1962.

7) In the service of the people for a free Byelorussia, London, 1964.

8) The Ancient Names of Byelorussia, London, 1968.

9) The Ancient Names and Early Carthography of Byelorussia, First ed., London, 1969; 2-nd ed., London, 1970; 3rd ed., London, 1971; 4-th ed., London, 1971.

10) About the Origin of the Name "White Russia", London, 1975.

Апрача гэтага выдаў у беларускай мове ратatарнай сыстэмай:

1) Жыды на Беларусі і Украіне, Лёндан, 1967.

2) Шляхам правакацыі, І-е выд. Лёндан, 1972; 2-е выд. Лёндан, 1975.

Пяру Віктара Астроўскага належаць таксама розныя брашуры і лістоўкі. Ягоныя друкаваныя працы знаходзяцца ва ўсіх большых бібліятэках вольнага сьвету і ў некаторых унівэрсытэцкіх бібліятэках за зялезнай заслонай. Ня ўсе працы Віктара Астроўскага аднолькавай якасьці. Дзякуючы аднак некаторым з іх ён стаў ведамы дасьледчык беларускай мінуўшчыны і як бадай адзіны вучоны, які паважна заняўся вывучэньнем картаграфіі Беларусі і яе гістарычнай назвы.

Усе працы Віктара Астроўскага былі выданы ўласным яго коштам на даўняй сыстэмы друкарскай машыне ў ягоным доме, або на рататары.

Цаніў час больш чым грошы, таму ніколі не рабіў »овэртаймаў« і кожную вольную хвіліну пасьля цяжкое штодзённае працы праводзіў у бібліятэках і музэях, або старых кніжных магазінах, знаходзячы там на полках пакрытых пылам, гістарычна-каштоўныя інфармацыі з багатай мінуўшчыны Беларусі.

Згодна з яго жаданьнем, багатая калекцыя гістарычных карт і друкарская машына перададзены ў Беларускі Музэй і Бібліятэку імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

———0———

*А. КАЛУБОВІЧ*

# НЕВЯДОМЫЯ АПАВЯДАНЬНІ XIV І XV СТ. СТ.

У 1563 г., у часе Лівонскае вайны, маскоўскае войска Івана Грознага зруйнавала й спаліла спаміж іншых гарадоў Беларусі — Лукамль.[1]) Зруйнавала, відаць дашчэнту. Гісторык А. Гваньіні (камэндант Віцебска ў тую вайну), які (з дапамогаю М. Стрыйкоўскага) у 1578 г. старанна апісаў[2]) усе гарады й крэпасьці Полаччыны, Лукамля нават не згадаў. У тым часе ён зусім не існаваў. У 1918 г. бальшавіцкі карны атрад зьнішчыў у недалёкіх Бешанковічах бібліятэку й архіў графаў Буцянёвых-Храбтовічаў, дзе пераховўваліся нікім не дасьледаваныя рэшткі архіву князёў Лукамскіх.[3])

Так усе помнікі пісьменства старажытнага Лукамля — цэнтру ўдзельнага княства ад XII ст., аднаго із найбольшых гарадоў Полаччыны (побач самога Полацка, Віцебска й Друцка)[4]) — або пагарэлі ў вагні, або былі парасьцяганыя й вывезеныя ў Масковію.

У 1968 г. Сібірскі аддзел АН СССР выдаў апісаньне прыватнага збору рукапісаў XIV-XIX ст. ст. расейскага гісторыка М. Ціхаміраva, падараванага ім у 1965 г. Дзяржаўнай публічнай навуковай бібліятэцы гэтага аддзелу у Новасібірск.[5]) Пра збор гэты перад тым у навуцы нічога ня было ведама. На канцы апісаньня із апісаных зборнікаў апублікаваныя тэксты некаторых рэдкіх ці ўнікальных твораў; а ў тым — два *арыгінальныя беларускія* апавяданьні царкоўна-гістарычнага зьместу, дагэтуль *невядомыя* ў гісторыі беларускай літаратуры, але якія былі ведамыя ў XV-XVIII ст. ст. і

[1]) Беларуская савецкая энцыклапедыя (у далейшым — БелСЭ), Мінск, т. 6, 1972, б. 435.

[2]) A. Gwagninus, Kronika Sarmacyey Europskiey, Kraków, 1611 (польскі пераклад).

[3]) А. Калубовіч. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства, 1, Мюнхэн-Лёндан, 1974-1975, б. 55.

[4]) БелСЭ, т. 3, 1971, б. 119.

[5]) М. Н. Тихомиров. Описание Тихомировского собрания рукописей, Москва, 1968.

менаваліся тады як *Цуды 11 і 12 съв. Міколы* (Мірлікійскага) ці *Цуды съв. Міколы Лукамскага.*

Наўперад падамо самыя тэксты апавяданьняў. Абодва яны ўпісаныя ў зборнік 1-ай пал. XVI ст., у вапісаньні М. Ціхамірава — № 309 (арк. арк. 171 адв. — 172 адв.). Можна думаць, што зборнік уложаны ў Растове паўночным: у ім асаблівая ўвага да растоўскіх сьвятых — жыцьці Абрагама, Ізыдара, Ісаїі, Лявона й Ігната Растоўскіх, а таксама словы й павучэньні на сьмерць некаторых зь іх.

У зборы М. Ціхамірава ёсьць яшче адзін сьпісак апавяданьняў — у зборніку № 302 (арк. 255), пісаным паўуставам 1-ай пал. XVII ст. (вадзяныя знакі на паперы: 1580-1595 гг.). Гэта зборнік цудаў сьв. Міколы, мажліва, нават беларускі: у зборніку (без пачатку — няма 6 першых аркушаў, дзе маглі быць дата й месца напісаньня яго) на арк. арк. 221 адв. — 222 і 250 захаваліся дзьве пазьнейшыя (з XIX ст.) прыпіскі, у якіх, хоць і абрэзаныя часткі іхнага пачатку, з пазасталага тэксту відаць, што ў 1841 г. зборнік быў »въ застенки Заблудовке« й у »деревни Гаю« (на Беласточчыне?).

Тэксты апавяданьняў перадрукоўваем так, як яны апублікаваныя ў акад. М. Ціхамірава.[6]) Нажаль, публікатар зрабіў некаторыя зьмены ў арфаграфіі, не агаварыўшы іх ні пры нашых апавяданьнях, ні пры іншых публікацыях, ні ў прадмове да кнігі. Мы заўважылі, што слова »Бог«, якое ў сьпіску XVI ст. магло быць пісанае толькі зь вялікае літары, у публікацыі скрозь (15 разоў) з малое. Таксама поўнасьцю адсутнічае ѣ і ўсюды, дзе яно магло быць (лето, при князе Витовте й г. д.), на ягоным месцы *е*. Якія яшчэ зроблены зьмены — невядома, што ўважаем за найбольшы недахоп выданьня.

### »Чюдо 11 святого отца Николы

А се чюдеса новая створилася святого Николы в Литовьской земле при князе Витовте Кестутьевиче в лето 6000 и девятьсотное.

Явися святый Николае Парфенью в Лукомвле, вестуа ему тако: Маловер, спиш ли? Он же рече: Нет, господине, не сплю. И рече ему святый Николае: Знаеше ли мене? Он же рече: Не знаю. И рече: Аз святый Никола Жидиченский,[7]) и пришел есмь семо в Лукомль, тамо не могу жити погани деля, зане умножися безаконие. И ты повестуй игуменом и попом и всем християном лукомляном, чтобы поставили церковь в имя мое на том месте у ледника на горке, и хощу зде быти, а то им скажи. А еще иду в Полтеско, умножилась безакониа, целуют крест и изменяють, хощу показнити того. Парфенеи не сказал неделю да почал болети и не ясти, сказал людем, и бысть здрав. И они церковь поставили в том месте да в том часе знамение учнилося«.

### »Чюдо 12 святого отца Николая

А се чюдо святого Николы Лукомльскаго, иже сътвори чюдеса на принесение честных мощей. Тимофеа простил Бог и святый Николае, боляща ногою 7 лет, из Дорогобужа пришедша. Дементия прости Бог и святыи Николае, от рождества рукою не владеюща, ис Серпьска пришедша. Кондрата черньца простил Бог и святыи Николае, болевша очима 6 лет, с Москвы пришедша. Исака простил Бог и святыи Николае, болевша очима и ногама, ис Чавникова[8]) пришедша. Озарью простил Бог и святыи Николае, болевша очима 4 лета, из Борисова пришедша. Дементиа Бог простил и святыи Николае, болевша рукою и ногою от рождества своего, пришедша от Смоленска. Феодора простил Бог и святыи Николае, болевше всем телом 8 лет, пришедша из Гливна.[9]) Греча простил Бог и святыи Николае, болевша очима 7 лет, пришедша с Лвягза. Матфеи простил Бог и святыи Николае, из Словенска[10] пришедша. Стефана прости Бог и святыи Николае, болевша очима 30 лет, из Менска. Ермолу пришедша прости Бог и святыи Николае, болевша очима 3 лета, пришедша ис Когана.[11]) Федора простил < Бог > и святый Николае, мучима от беса 17 лет, пришедша из Марко-

[6]) Приложение, № 10, бб. 191-192. (Із позьнягa сьпіска XVII-XVIII ст. апавяданьні былі апублікаваныя ўжо ў пач. XX ст.: Н. К. Никольскій. Матеріялы для исторіи древнерусской духовной письменности, СПБ, 1907 г., бб. 145-146.)

[7]) Жыдзічын — манастыр у Луцкай эпархіі на Украіне.

[8]) Памылка перапісчыка: павінна быць »ис Чашников«. Чашнікі ў 18 клм. ад Лукамля. Цяпер м. Лукамль належыць да Чашніцкага раёну.

[9]) м. Глівін у 9 клм. на паўдзённы ўсход ад Барысава на р. Беразіне. Згадваецца ў Сьпісе »дальнихъ и ближнихъ городовъ« кан. XIV — пач. XV ст. (Гливна).

[10]) Із пэўнасьцю яго ня можам зыідэнтыфікаваць. Калі тут маецца на ўвазе селішча ў Беларусі, В. Ластоўскі (час. »Крывіч«, Коўна, 1925 г., № 10/2, бб. 56-57) апісвае старажытнае м. Славянск на р. Беразіне (Нёманскай) на захад ад Радашковічаў; але нам не ўдалося яго знайсьці ні ў БелСЭ, ні на даступных нам картах, ні ў іншых крыніцах. Ёсьць яшчэ с. Славінск у Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобл.

[11]) Памылка перапісчыка: павінна быць »ис Коханава«. м. Коханава ў суседнім Талачынскім раёне.

ва.[12]) Ивана простил Бог и святый Николае, рукою и ногою не владеюща 8 лет, пришедша из Дрючска. Сидора простил Бог и святый Николае, болевша очима, пришедша из Орши. Ульяну простил Бог и святый Нико<ла>е, болевша очима 10 лет«.

Няма ніякага сумніву што да *месца напісаньня* апавяданьняў: абодва яны напісаныя *ў Лукамлі*. Ня толькі таму, што ўсе падзеі ў іх адбываюцца тут. Яшчэ болей таму, што толькі лукамляне-аўтары маглі ведаць такія (мясцовыя) дэталі, як тапаніміку горада (»у ледника на горке«), канкрэтную эвідэнцыю хворых паломнікаў у Лукамль (іхныяймёны, адкуль хто прыйшоў, якую меў хваробу, як доўга) і інш.

*Імёны аўтараў* нам аднак *невядомыя*. Адно пэўнае — іх было *двое:* і дзеля таго, што ў часе (на працягу, мажліва, каля стагодзьдзя) іх ня мог-бы напісаць адзін і той-жа аўтар; і дзеля таго, што творы гэтыя значна розьняцца між сабою ў форме, тут дзьве розныя манеры пісьма. Першы твор кампазыцыйна й стылістычна — узор кароткага мастацкага апавяданьня; ён мае тыповую, ясную й закончаную кампазыцыю, хоць і для невялікага сюжэту; мова ў ім — лякацічная, найбольшую жывасьць малюнку надае дыяляг. Другі твор — прасьцейшы, нагадвае форму справаздачы. Пра аўтара другога апавяданьня ільга выказаць прыпушчэньне, што ім мог быць адзін із манахаў Мікалаеўскага манастыра, для каго больш даступнымі былі манастырскія запісы, зьвязаныя з паломніцтвам да мошчаў сьв. Міколы ў манастырскую царкву.

Мы ўжо заўважылі, што апавяданьні былі напісаныя ў розным часе.

Першае зь іх можна датаваць амаль дакладна. У ім ёсьць аўтарская дата цуда 11 сьв. Міколы — 6900-ы ці 1392 г. Раней гэтае даты, якая ёсьць тэмаю апавяданьня, яно не магло быць напісанае. Аналіз зьместу апавяданьня дае нам яшчэ адну дату.

Разьвітваючыся з Парфенам, сьв. Мікола сказаў, што із Лукамля ён ідзе ў Полацак, каб там »показнити того«, хто »целуют(ь) крест и изменяють«, хто »умнож'ае безакониа«. Каго тут меў на ўвазе сьв. Мікола? Хто гэта ў тым часе быў у Полацку, хто фальшыва прысягаў і памнажаў беззаконьне, за што сьв. Мікола зьбіраўся яго »показнити«?

Зыркім выпадкам зламаньня прысягі ў тым часе былі крывапрысягі кн. Скіргайлы перад Вітаўтам і Кестуцем, у наступстве якіх па крывапрысязе (у 1382 г.), на загад Ягайлы, в. кн. Кестуць быў падступна забіты, а сын ягоны, Вітаўт, арыштаваны для забойства (толькі ўцёкі Вітаўта ў Нямеччыну выратавалі яго ад сьмерці). Падзеі тыя так глыбака ўзрушылі грамадзтва Вялікага княства Літоўскага, што былі ўпісаныя ўва ўсе беларускія летапісы. Князь-крывапрысяжца чыніў »безакониа« і ў самім Полацку. Калі ў 1386 г. ён асадзіў і ўзяў Полацак, Лукамль і інш. гарады, занятыя кн. Андрэем Полацкім і ягонай антыягайлаўскай кааліцыяй, Скіргайла выкарыстаў нагоду, каб памсьціцца сваім праціўнікам-палачанам, якія, не жадаючы мець на полацкім пасадзе стаўленіка Ягайлы, ужо ў 1381 г. выгналі яго із Полацка: цяпер ён адбіраў у іх маёмасьць і караў сьмерцю. Якраз у 1392-94 гг., згубіўшы вялікакняскі пасад на карысьць Вітаўта, ён вярнуўся ў Полацак, паўторна адданы яму Ягайлам у 1387 г. Але ад раньняй вясны 1395 г. тут яго ўжо ня было — зн. ад гэтага часу сьв. Міколу ня было-б каго »показнити« ў Полацку: Скіргайла ў войску в. кн. Вітаўта быў у паходзе на Падольскую зямлю, у тым-жа годзе Вітаўт прызначыў яго на свайго намесьніка ў Кіеў, дзе ў наступным годзе, паводля летапісаў, ён быў атручаны.

Калі нашыя разважаньні правільныя, яны даюць нам пазьнейшую дату напісаньня апавяданьня — 1394 г. Такім чынам, *дата напісаньня першага апавяданьня* — не раней за 1392 і не пазьней за 1394 гг. Гэта падтрымлівае й тытул Вітаўта: у вапавяданьні ён названы »князем«, а не »вялікім князем«, якім толькішто (у 1392 г.) стаўся; пазьней ён ужо ня мог быць так тытулаваны.

У *другім апавяданьні* няма ніякае даты. Аднак аналіз пісьма й паперы сьпіска, як і зьместу апавяданьня, дае нам *прыблізную дату* ягонага напісаньня.

Разгляданы сьпісак пісаны паўуставам 1-ай пал. XVI ст., вадзяныя знакі на паперы — 1513 і 1530 гг. А арыгінал апавяданьня мусіў быць ужо перад тым. У вапавяданьні ёсьць пэрсанаж — паломнік Іван, »пришедша из Дрючска«. А Друцк перастаў існаваць у пач. XVI ст. Апошні раз у пісьмовых крыніцах (Хроніка Литовская и Жмойтская« — Полное Собрание Русских Летописей, т. 32, Москва, 1975, б. 104) ён згадваецца пад 1514 г., калі ён, відаць, быў спалены маскоўскім войскам і болей не аднаўляўся. Значыць апавяданьне было пісанае перад пач. XVI ст. З другога боку, яно магло паўстаць ня толькі пасьля пабудовы ў Лукамлі Мікалаевскай царквы, але й пасьля якогась далейшага, больш ці менш працяглага часу, па-

[12]) м. Маркава ў 19 клм. на захад ад Маладзечны. У пісьмовых крыніцах згадваецца ад 1493 г. (БелСЭ, т. 7, 1973 г., б. 18).

трэбнага на тое, каб у Лукамлі маглі з розных месц (ня толькі блізкіх, а й далёкіх) прыйсьці згадваньня ў вапавяданьні паломнікі. Гэта магло быць дзесь у XV ст., хутчэй за ўсё ў 2-ой пал. ці канцы XV ст.

У *мове апавяданьняў* адбіліся працэсы, характэрныя для XIV і XV ст. ст. Праўда, перад намі не арыгінал, а сьпісак зь яго, і беларускія асаблівасьці аўтарскай мовы ў большай ці меншай меры расейскім перапісчыкам маглі быць замененыя на царкоўнаславянізмы (гэта найлепей выясьнена на практыцы перапісваньня прадмоваў Ф. Скарыны й »Арыстотэлевых варотаў«).

Апавяданьні пісаліся ў часе, калі ў царкоўнаславянскую мову (што перад тым непадзельна выконвала ролю літаратурнае) шляхам інфільтрацыі ў яе розных элемэнтаў беларускае народнае гаворкі фармавалася новая — старабеларуская літаратурная мова раньняга пэрыяду.

У напісаньнях *О*ЗАРЬЮ і СЛ*О*ВЕНСКА праз *о*, заміж *а* (2ое апавяданьне), відаць паходжаньне аўтара із акаючай прасторы, які не адрозьніваў ненацікснога *о* ад *а*. Трымаючыся традыцыйнае арфаграфіі (каторая на пісьме аканьня не перадавала) і высьцерагаючыся не зрабіць памылкі (не напісаць *а* заміж *о*), у гэтых выпадках ён памыліўся.

Із марфалягічных асаблівасьцяў зварочваюць на сябе ўвагу канчаткі, якія рабіліся нормаю старабеларускай літаратурнай мовы: назоўнікаў і суадносных займеньнікаў муж. р. у дав. скл. мн. л. на *-ом)-ем*[13]) — ИГУМЕН*ОМ* И ПОП*ОМ* И ВС*ЕМ* ХРИСТИАН*ОМ* ЛУКОМЛЯН*ОМ*, ЛЮД*ЕМ* (1-ае апавяданьне); прыметнікаў муж. р. зь цьвярдой асноваю ў род. скл адз. л. на *-ого*[14]) (у вымове *-óга/-ага)*, заміж царкоўнаславянскага *-аго* — СВЯТ*ОГО* (4 разы ў вабодвых апавяданьнях) пры ЛУКОМЛЬСК*АГО* (1 раз у 2-ім апавяданьні); асабовага займеньніка першае асобы ў род. скл. адз. л. на *-е* — МЕН*Е* (1-ае апавяданьне); інфінітываў з асноваю на галосны і з націскам на аснове на *-ти* (*-ці*)[15]) — ЖИ*ТИ*, БЫ*ТИ*, ПОКАЗНИ*ТИ*, БОЛЕ*ТИ* (1-ае апавяданьне); дзеясловаў цяперашняга часу ў 3-яй асобе мн. л. з *-тъ (цъ)*[16] — ИЗМЕНЯЮ*ТЬ* (1-ае апавяданьне). Таксама раньнія выпадкі зьлітнага напісаньня зваротнай часьціцы *-ся* зь дзеясловам — СТВОРИЛА*СЯ*, УЧ(И)НИЛО*СЯ*, УМНОЖИ*СЯ* і інш. (1-ае апавяданьне). Як ведама, у XV ст. часьціца яшчэ захоўвала сваю рухомасьць (магла стаяць асобна як перад дзеясловам, так і пасьля яго), у XVI ужо пераважала зьлітнае напісаньне яе, у XVII (калі працэс закончыўся) — толькі зьлітнае. А значыць *пачатак працэсу*, на аснове прыкладаў з 1-га апавяданьня, можна датаваць ужо канцом XIV ст.

Із лексычных беларусізмаў (лексэмаў і іхных формаў) зьвернем увагу на: народнае слова СКАЖИ (І СКАЗАЛ) побач царкоўнаславянскіх сынонімаў ПОВЕСТУЙ (ВЕСТУА і РЕЧЕ) (1-ае апавяданьне); беларускія формы агульнаславянскіх слоў, у якіх зьменены прэфікс ці ягоная агаласоўка — ПОЧАЛ, СТВОРИЛАСЯ (1-ае апавяданьне), побач СЪТВОРИ (2-ое апавяданьне) і на новае значаньне агульнаславянскага слова, паўсталае ў выніку пашырэньня ці зьмены ягонага сэмантычнага абыйма — фразэлягізм В ТОМ ЧАСЕ (1-ае апавяданьне), дзе слова »час« мае значаньне царкоўнаславянскага »время«. Асобна адзначым беларускія формы ўласных імёнаў царкоўна-хрысьціянскага паходжаньня, у якіх адпала канцавое *-ій* ці *-й*:[17]) НИКОЛА[18]) (НИКОЛЫ — род. скл.) — 4 разы ў вабодвых апавяданьнях, побач царкоўнаславянскае формы НИКОЛАЕ — 16 разоў; і ў 2-ім апавяданьні — КОНДРАТ (КОНДРАТА — род. скл.) (украінская форма — »Кіндрат«, расейская асноўная — Кондратий«),[19]) ЕРМОЛА (ЕРМОЛУ — род. скл.) (украінская асноўная — »Ермолай«, расейская — »Ермолай«, »Ермак«).[20])

На гэтым мы маглі-б і закончыць наш артыкул, але, дзеля таго, што творы гэтыя адначасна й гістарычныя дакуманты, у каторых пра Лукамль і Беларусь ёсьць інфармацыі, дагэтуль невядомыя ў беларускай гісторыі, — postscriptum хочам дадаць некаторыя ўвагі, датычныя галоўна гістарычнай геаграфіі Беларусі й царкоўнай гісторыі.

2-ое апавяданьне дае нам новыя дадзеныя да гісторыі беларускіх гарадоў і мястэчак. У ім упяршыню (ужо ў XV ст.) згадваюцца Чашнікі, якія перад тым у пісьмовых крыніцах згадваліся ад сяр. XVI ст.,[21]) і Коханава — перад тым ад XVIII ст.[22])

13) А. І. Жураўскі. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. I, АН БССР, Мінск, 1967, б. 44.

14) Там-жа, бб. 46, 65, 83, 90 і інш.

15) Там-жа, бб. 50, 52 і інш.

16) Там-жа, б. 47.

17) М. В. Бірыла. Беларуская антрапанімія, АН БССР, Мінск, 1966, бб. 14-15.

18) Там-жа, бб. 128-129.

19) Там-жа, бб. 99-100.

20) Там-жа, б. 74.

21) БелСЭ, т. II, 1974 г., б. 220 (без паданьня крыніцаў) інфармуе, што Чашнікі ведамыя ад пач. XVI ст. У Лівонскую вайну ў іх, нібы на загад Івана Грознага, быў пабудаваны замак, зруйнаваны ў 1564 ці 1567 г. Аўтарытэтныя крыніцы даюць іншыя інфармацыі: сакратар караля С. Батогага ў сваіх »Нататках пра маскоўскую вайну« (1591 г.) сьведчыць, што замак у Чашніках »яшчэ

# ПАВАЛ VI: СЬВЯТАР У СУЧАСНЫМ СЬВЕЦЕ

Рым на працягу сваей многавяковай гісторыі бачыў шмат нязвычайных падзеяў і здавалася-б апраўданым пытаньне: ці магло-б там штосьці здарыцца такога, што зьдзівіла-б сьвет, прыцягнула яго ўвагу? Калі кажам сьвет, разумеем людзей занятых рознымі справамі, насычаных роскашамі, мала або й зусім ня думаючых пра Бога.

29 чэрвеня г. г. тысячы пільгрымаў маглі пераканацца, што дзівы Рыму ня вычарпаліся, што да розных яго падзеяў даходзяць усьцяж новыя ня менш цікавыя і ня менш слаўныя.

У дзень патронаў Рыму сьвятых вярхоўных Апосталаў Пятра і Паўла біскуп Рыму Павал VI сам асабіста рукапалажыў у сьвятарскі сан 359 дыяканаў розных нацыяў і расаў. Быў гэта зыход Духа Сьвятога на будучых працаўнікоў у вінаградзе Госпада. Вялічэзная базыліка сьв. Пятра на гэты раз была замалая, каб ахапіць разам з кандыдатамі ў сьвятары масы вернікаў, якія прыбылі ў Рым і жадалі прысутнічаць у час таінства сьвятарства. Таму ўсё адбывалася на плошчы перад базылікай, між славутай каланадай Бэрніняга. Вячэрняя пара, гарэньне сьвячэй і пах кадзіла, сьпевы пільгрымаў і сыкстынскага хору павялічвалі містыку сьвятога абраду. Пры гэтай нагодзе Папа Павал VI у даўжэйшым казані гаварыў пра сьвятарства: чым яно ёсьць у сваей сутнасьці і якая яго роля ў сучасным сьвеце. Тут пададзём важнейшыя мамэнты папскай прамовы.

»Ня можам прамаўчаць т р ы  с л о в ы, якія выказваюць унутраную сутнасьць сьвятарскага рукапалажэньня. Першае з іх — прызваньне (пакліканьне). Вы сьвятары ёсьць прызваныя Богам, Хрыстом, Царквой. Ня важна якім спосабам у глыбіні вашага сумленьня і навонкі адазвалася прызваньне. Кожны з вас павінен памятаць той факт, без якога вас сьвятароў не было-б: Божы выбар быў скіраваны на вашую асобу. Словы Ісуса Хрыста, што з евангельля праніклі да вас да вашай людзкой існасьці: »Я вас выбраў« (Ян 15, 16); таксама да кожнага з вас Хрыстос сказаў: »Ідзі ў сьлед за мной« (Мат. 19, 21); і для ўсіх вас звучаў той самы салодкі, свабодалюбівы і захвочваючы голас:»прыйдзіце і ідзіце ўсьлед за мной. Я вас зраблю рыбакамі людзей« (Мат. 4, 19).

О, шчасьлівыя вы мае дзеці і браты! Шчасьлівыя, бо атрымалі ласку, мудрасьць, сьмеласьць услухацца і прыняць гэтыя выразныя запросіны! Яны паблыталі звычайныя і атракцыйныя пляны вашага жыцьця; яны вырвалі вас з грамады дарагіх вам людзей (Мат. 19, 27-29); яны таксама змусілі вас адрачыся сужэнскай любві, каб выявіць у вас асаблівую любоў нябеснага валадарства, веры і братоў (Мат. 19, 12). Вы забавязаныя да вылучнага духовага жыцьця (Гал. 5, 16), якое зрэшты імкнецца ўсё зразумець і ацаніць, а калі вашая ахвяра была прынятая, вы сталіся ўчасьнікамі таго хвалюючага здарэньня: — ісьці ў сьлед за Хрыстом.

О, якія вы шчасьлівыя! Думайце заўсёды аб вялікім шчасьці вашага прызваньня і ніколі не сумнявайцеся, што быццам вы зрабілі памылку ў харызматычным выбары пры развазе і любві. І ніколі не абяртайцеся назад! Сам Ісус нас вучыць: »кожны, хто прылажыў руку да плуга і аглядаецца назад, ня ёсьць дастойны Божага валадарства« (Л. 9, 62).

## НЕВЯДОМЫЯ АПАВЯДАНЬНІ XIV І XV СТ. СТ.

Выраз »повестуй игуменом (мн. л.) и попом (мн. л.) . . . лукомляном« у 1-ым апавяданьні прамаўляе за тое, што будоваю Мікалеўскай царквы ў Лукамлі мусіла быць колькі іншых цэркваў і манастыроў. (Г. Штыхаву ведама крыніца, паводля якое ў 1397 г. пры Мікалаеўскай царкве быў заснаваны манастыр.)[23]) Із 2-га апавяданьня мы даведваемся таксама, што ў XV ст. Лукамль быў царкоўным асяродкам, далёка ведамым ня толькі ў самой Беларусі (куды йшлі багамольцы-паломнікі із Друцка, Воршы, Барысава, Менска, Смаленска, Дарагабужа й г. д.), але й паза ейнымі межамі — у Масковіі (паломнікі з Масквы, Серпейска)[24]) і нат у Грэцыі (паломнік із Лвягза).

раней« за 1568 г. пабудаваў гэтман польны Вялікага княства Літоўскага кн. Раман Сангушка (Р. Гайдэнштайн. Пад Полацкам дажджы, Ватэнштэт, 1946 г., б. 28); Баркулабаўскі летапіс у вартыкуле пра сьмерць Б. Корсака (1576 г.) пацьвярджае гэта й удакладняе: замак »по взятию Полоцкомъ« (г. зн. пасьля 15. 2. 1563 г.) пабудавалі »панъ Баркулабъ... Корсакъ, староста дисенский... веспол с паном Романомъ Ходкевичом« (тут апіска, павінна быць — Сангушкам).

[22]) БелСЭ, т. 6, б. 87.

[23]) Там-жа, б. 435.

[24]) Цяпер горад Калускае вобл. РСФСР, да 1494 г. уваходзіў у Вялікае княства Літоўскае.



**Дыяканы, паўшы ніцам, моляцца да Духа Сьвятога перад прыняцьцем сьвятарства.**

Гэткае права прызваньня: трэба сказаць »так!« поўнасьцю і канчаткова«.

У далейшым Папа пераходзіць *да сьвятарскага рукапалажэньня:* »Ёсьць яшчэ іншае слова, яно Божае. І як-жа яно звучыць? Кананічнае права называе яго сьвятарскім рукапаложаньнем. Якое-ж яго значэньне і што яно даець? які вынік таго дзеяньня, што выбіваецца з тайнаў, а што становіць сутнасьць, праўду, надпрыродную новасьць вось тут выконванага обраду?

Уважайма! Тут знаходзіцца цэнтральнае вогнішча і ня толькі сяньняшняга абраду, але тайны Царквы. Тут адбываецца духоўная перадача, якой кіруе сам Сьвяты Дух, а які ўлівае яе ў выбранага свайго вучня, узвышанага праз Хрыста да ступенькі слугі Бога. Помніце ўваскрэсшага Хрыста?, калі прамаўляў да вучняў і калі дыхнуўшы над імі сказаў: »Атрымайце Духа Сьвятога« (Ян 20, 22). Кантакт, адпачатак, характар урабляў тады і урабляе сяньня тых, якія атрымоўваюць тайну сьвятарства. Сьвятар становіцца здатным »раздзяляць Божыя тайны« (Кар. 4, 1; І Пятра 4, 10).

»Сьвятарства — кажа сьв. Тамаш — у першую чаргу дае ўладу«, якая па сваей прыродзе неравышае людзкія здатнасьці, а якая можа выходзіць толькі ад Бога, каб магла быць датарнаваная на службу чалавека.

Падумайце аб змозе перамяняць хлеб у цела, а віно ў кроў Хрыста; аб прынашэньні жэртвы, аб раздзяляньні Цела і Крові Хрыста, нашага Збаўцы, аб затрымоўваньні і адпушчаньні грахоў!

Калі яно ёсьць гэтак — а яно запраўды ёсьць — тады жар нашага духа і захопленьне дзіўнымі рачамі ніколі не павінны астываць . . . Разам з Найсьвятой Багародзіцай будзем паўтараць: »Зрабіў для мяне вялікае той, хто ёсьць магутны« (Л. І. 49).

Апрача прызваньня і рукапалажэньня ёсьць яшчэ трэцяе слова, якое зьяўляецца неадлучным ад сьвятога абраду намі цяпер выконванага — прадаўжаў Папа — гэта м і с і я або п а с л а н с т в о. Тут зноў дакранаем каталіцкага сьвятарства і вымогаў у сучасным сьвеце.

Сьвятаром ня можа быць той, хто не ўдастоіўся яго атрымаць. Сьвятарства — гэта не асабістая годнасьць, мэтай сьвятарства ня ёсьць само сьвятарства. Яно ёсьць служэньнем, пасьрэдніцтвам паміж Богам і людзьмі. Яго прызначэньнем ёсьць Царква, супольнасьць, вернікі-браты, увесь сьвет. І тут

*а. Я. ГЭРМАНОВІЧ*

# ЛЮРД

Дзень 11 лютага пасьвячаны Маці Божай у Люрд. А мне так жыва ўспомніўся факт, калі я трапіў у Люрд у 1936 г. пасьля доўгай валакіты з Манджурыі і Харбіну цягнікам праз Тяньзін, Пэкін, Нанкінг у Шангай. Усё гэта варта апісаць, каб быў час. Аднак важнейшае тое, што прыбыў параплавам праз Сінкгапур, Калёмбо і праз Суэзкі канал дый Сяродземнае мора — у горад Марсэй у Францыі і стуль у Люрд! Знайшоўся я там 5. II. 1936 г.

Горад Люрд у прадгор'і Пірэнэяў разлажыўся раскошна. Сапраўды, Божая Маці мае густ, бо выбрала проста цудоўнае месца для аб'яўленьня ў 1858 г. А там энэргічная рака Гаў'я з шумам сьпяшаецца праз даліну Массабіельскую, каб праз горад Біаррыц трапіць у мора.

Туды якраз люрдзкія дзяўчаткі хадзілі праз рэчку ў даліну і ў горы, каб набраць адпадкаў ці наламаць сухастою-дроў. Яны ня мелі часу, ані нават цікавіліся відамі цудоўнае прыроды ў гэтым месцы: ім трэба было сьпяшацца прынесьці дроў, каб мама магла хутчэй зварыць хоць і скупаватую ежу. Ў аднэй групе дзяўчатак была і Бэрна-

---

слова Хрыста мае сутна рашучае значэньне. »Супакой вам!« — Ён гаварыў Апосталам у той-жа вечар свайого ўваскрасеньня. »Як Айцец паслаў мяне, так я пасылаю вас« (Ян 20, 21).

І таму неадлучным ад сьвятарства ёсьць апостальства, місыйны дух, пасьрэдніцтва. Сьвятарства ў сваей сутнасьці ёсьць грамадзкім, яго тайна праз сваю праграму ёсьць усёўладнай, усёахапляючай: »Ідзіце і нясіце евангельле да ўсіх народаў« (глядзі Мт. 28, 19). Таму духоўнасьць сьвятара павінна абыймаць і гэты напрамак як сталы, а таксама ня менш прагрэсыўны акт сумленьня. Кожны са сьвятароў павінен сам сабе сказаць: я прызначаны для служэньня Царкве, для служэньня народу.

Сьвятарства — гэта любоў. Бяда таму, хто гадаваўбы ў сабе утылітарыстычны эгаізм. Поўная жэртва з уласнага жыцьця адчыняе перад вялікадушным сьвятаром новыя дзівы: візію ўсяго чалавецтва. Але можа і так стацца, што сьвятар зразумеўшы сваю апрычонасьць, дзеля вельмі-ж асаблівай сваей рэлігійнай дзейнасьці, пачне сумнівацца ў тым, што ён здатны да жывога кантакту з сучасным грамадзянствам або з паасобнымі ягонымі часткамі. Калі аднак ёсьць служэньне настаўніка, доктара ці палітычнага дзеяча — дык тымбольш служэньне сьвятара.

»Вы ёсьць соль зямлі — кажа Госпад — вы ёсьць сьвятло сьвету« (глядзі Мт. 5, 13-15). Блізкасьць, сымпатыя, патрэба — усё гэта неадлучнае ад сумленьня сьвятара і змушае яго служыцеля Слова, Ласкі і Любві, ня толькі прыняць удзел у кожным дыялёгу, у кожным вызаве, які бяз хітрыкаў яму запрапануецца, але панукае яго прыняць самому пастырскую ініцыятыву і не зважаючы на тое ці яго хто жадае ці не — ісьці да таго, хто яго патрабуе. Гэты дзейны і апостальскі падыход павінен сяньня больш чым калісьці заўладаць сьвятаром, любоў надпрыродная, чульлівая і заботлівая. Сьвятар павінен пашыраць грамадзкую справядлівасьць у духу хрысьціянскай сацыялогіі, што бярэ свой пачатак з евангельля і навучаньня Царквы, а не з крыніц чужых хрысьціянскім прынцыпам. »Любоў Хрыста нас прымушае« (2 Кар. 5, 14) і ніякая іншая прынада ня можа яе заступіць і перавысіць. »Падыміце вашыя вочы і пагляньце на ваколіцы, што ўжо сьпелыя для жніва« (Ян 4, 35).

Асьмельваемся паказаць — падобна як рабілі пракрокі — апостальскі далягляд, які ляжыць перад кожным із сьвятароў: сьвет вас патрабуе! чакае на вас! Нават у тых варожых словах адносна вас сьвет выяўляе свой голад праўды, справядлівасьці, абновы — усё тое, што толькі сьвятарскае служэньне можа зьдзейсьніць. Сьвятар павінен быць гатовы прыняць і тыя шыдэрствы, якія часта зусім несправядліва сьвет кідае супроць пасланцоў евангельля«.

Папа закончыў сваю прамову бацькаўскім прачуленым зваротам да сьвятароў: »Умейце ўслухацца ў голас бядняка, у голас чысты дзіцяці, у стогн перамучанага работніка, ва ўздохі церпячых; услухайцеся ў крытыку філёзафа. Ніколі ня бойцеся. Nolite timere. А Царква Маці і Настаўніца вамі апякуецца, вас любіць, на вас спадзяецца«.

(Прамова Папы Паўлы VI знаходзіцца ў італьянскай мове ў »L'Osservatore Romano«, 30. VI. 1. VII. 1975).




дэта Субіру, з беднае сям'і ў Люрд. Простая працавітая дзяўчынка нічым асаблівым не адзначалася, але магчыма дзеля яе чыстасьці і шчырай пабожнасьці выбрала яе Багародзіца, каб праславіць Бога. Калі Бэрнардэта адлучылася ад грамадкі дзяўчат і падышла да гроту між массабейскіх гораў, пры самым гроце паказалася ёй прыгожая Дзева ў сьветлай шаце з нябесным поясам, зь якога звісаў ражанец. Хутка між імі завязалася шчырае знаёмства, бо Дзева была прыязная і ласкавая. Дзяўчаткі бачылі здалёку, што Бэрнардэта з некім гутарыць, але не бачылі там нікога, дык пыталі яе, хто там быў? Бэрнардэта прызналася дый сама дзівілася, што сяброўкі нікога ня бачылі.

Дзяўчаткі ўзбудзілі цікавасьць у людзей. А калі Бэрнардэта зьбіралася ізноў, каб пабачыць Спадарыню ці Дзеву, дык ужо былі й другія людзі. Ніхто аднак, апрача Бэрнардэты, нікога не ўбачыў. Калі на час новых аб'яўленьняў пачалі зьбірацца большай грамадой людзі, тады ўмяшалася паліцыя і мясцовыя ўрадоўцы, якія пад уплывам вольнадумцаў баяліся рэлігійна-царкоўнага ўплыву і звыклага шантажу. Забаранялі Бэрнардэце хадзіць у грот, бралі яе на допыты і сьледзтва. Таксама і бацькі дзяўчынкі баяліся дзіўнага і незразумелага й ня верылі ў ніякія зьявы: падазравалі, ці ня будзе тут шатанскае спакусы?

Бэрнардэта аднак не паддалася аніякім перашкодам: цьвярдзіла сваё і аднойчы накіравалася да мясцовага сьвятара, пробашча парахвіі, кажучы, што гэтая Дзева просіць, каб духавенства збудувала ў гроце капліцу. Але пробашч адказаў: няхай тая Дзева дасьць якісьці знак, што яна ёсьць ад Бога. І няхай скажа сваё імя, бо інакш ня ведама, з кім мы маем дзела? Усе дагадваліся, што аб'яўляецца Божая Маці і вельмі чакалі, што Яна адкажа? Нарэшце аднойчы Дзева сказала: »Я ёсьць Непавіннае Пачацьце«. Хаця Дзева сказала у мясцовым дыялекце, сама Бэрнардэта не зразумела такога ім'я, але было ясным, што Марыя аб'явіла сваё пачацьце без першароднага грэху, а гэта ёсьць догмат Каталіцкае Царквы.

Аставалася яшчэ даць знак, што дзяўчына гаворыць праўду. І вось аднойчы пры зьяве Дзева Марыя загадала Бэрнардэце: »Ідзі да крыніцы — абмыйся!« Дзяўчынка агледалася наўкола й нідзе не бачыла той крыніцы, дык надумалася бегчы да рэчкі, але Марыя сказала: »Тут абмыйся!« Дык тады дзяўчынка пачала грэбаць рукамі ў зямлі ля гроту і выціснула крыху вільгаці і пачала мазацца. Тады з групы людзей, якія недаверлі, паўсталі ўсьмешкі, што . . . дзіця не пры сваім розуме, што яно проста рэхнулася. Ажно пачалі адыходзіць махаючы рукамі. Тыя аднак, што асталіся, заўважылі, што ў тым месцы вада пачала прыбываць і ўжо паплыў ручэй. Так стварыўся крынічны паток, які цяпер дае ваду на 11 адчыненых кранаў і да басэйну, дзе ўладжаныя два аддзельныя пункты для пагружаньня хворых, бо там часьцей здараюцца цуды аздараўленьня.

Вада выцякае проста са скалы, са збоча гары. Ніхто яе не кантралюе ад 1858 г., чыстая горная вада, бяз ніякае прымешкі шкоднае для здароўя. Таксама кажны, хто толькі жадае, бярэ ваду з адчыненых кранаў і выносіць ці высылае бязплатна. А ў басэйнах хворыя апушчаныя ў халодную ваду — пры Божай ласцы — могуць ацалець ад сваіх недалужнасьцяў. Хаця сапраўдныя цуды здараюцца не часта, але жывая вера і гарачая малітва не бываюць страчаныя, прынамсі кажны вяртаецца дамоў аздароўлены духова. На вялікае дзіва, ніхто не адыходзіць разжалены. Не наракаюць, ані сумуюць, як з хворымі бывала дасюль, наадварот цешацца і набіраюць рэзвасьці, згаджаючца з Божай воляй. А здараецца і так, што цуд павароту да здароўя наступае неспадзявана

ў паваротнай дарозе, ці нават дома і то раптоўна і поўнасьцю.

Калі цуд здароўя здарыцца ў самым Люрд, дык пацыент павінен замальдавацца ў бюро, дзе спэцыялісты розных хваробаў сьцьвярджаюць дакананы факт. У хроніках бюро выпадак аздараўленьня запісваецца толькі пад умовай, што хвароба не вярнулася пасьля году. Але і тут здараюцца недагляды, бо хворыя цуды проста »крадуць«, бо пасьля аздараўленьня хутка зьнікаюць з вачэй дактароў ці прысутных сьведкаў, нават забыўшыся падзякаваць Богу і Сьвятой Дзеве. Ну іх ніхто ня ловіць, а справа астаецца пад Божым наглядам . . .

———*———

А мне Бог пазволіў наведаць Люрд перад веснавым сэзонам пільгрымак, які пачынаецца 11 лютага, а я прыбыў у Люрд 1936 г. 5 лютага. Я адбыў сваю прыватную пільгрымку на працягу чатырох дзён бяз лішняга сьціску і гармідару, які звычайна ўсюды бывае, калі зьбіраецца маса народу. І цяпер горача ўспамінаю тую мілую нагоду і дзякую Багародзіцы, што мне ласкава пазволіла адведаць тое сьвятое месца, якое сама выбрала, дзе я запраўды ўцешыўся і ўзмоцніўся духова і фізычна. Я тады ехаў з Манджурыі ў Эўропу на адпачынак, а ў Люрд дазнаў вялікага аблягчэньня і пачуў значную паправу здароўя, што — пры маей кволай недалужнасьці — дало мне больш гарту, у якім трываю ажно дасюль.

Дзякую Табе, Божая Маці, за праўдзівую апеку нада мною старым і слабым чалавекам, што ў сваіх 86-ці гадох яшче магу інтэнсыўна працаваць. Праўда, што раблю досыць паважных памылак, але ўсё-ж нават і свае няўдачы ахвярую на большую Божую хвалу і на славу нашай цудоўнай Маткі Боскай у Люрд, як і ў нашай дарагой Вільні і ў Жыровіцах і — дасьць Бог — можа дачакаю, што і ў маіх суседніх (ад Гальшан) Барунах, дзе трэба будзе ўспомніць даўнейшую апеку Барунскай Божай Маткі, даўнейшыя цудоўныя месцы, ніколі ў нашай Ашмяншчыне не забытыя!

Так нам памажы, Божа ласкавы і міласэрны і Ты, Дзева найпрыгажэйшае надзеі!

# ВЕСТКІ З РЄЛІГІЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ

## АСАМБЛЕЯ СУСЬВЕТНАЙ РАДЫ ЦЭРКВАЎ У НАЙРОБІ

(23 лістапада — 10 сьнежня 1975)

У Найробі ў Кеніі адбыўся V-ты Зьезд або Асамблея Сусьветнай Рады Цэркваў (у далейшым: С. Р. Ц.) пад агульным лозунгам: »Ісус Хрыстос асвабаджае і спалучае«. Дзеля розных прычын Зьезд гэты зьвярнуў на сябе ўвагу сьвету.

У Асамблеі брала удзел 750 дэлегатаў ад імя 270 розных царкоўных аб'еднаньняў, якія зьяўляюцца сябрамі С. Р. Ц. Меншыя лікам царкоўныя аб'еднаньні мелі толькі аднаго дэлегата, а большыя нават да 25. Прыехалі яны ў Найробі з 100 розных краінаў сьвету. З Афрыкі было 116 дэлегатаў, з Азіі — 106, з лацінскай Амэрыкі 24, з Карабійскіх Абтокаў — 11, з Усходняй Єўропы — 100.

Апрача дэлегатаў былі таксама назіральнікі (абсэрватары) у ліку 90 асоб, з якіх 16 ад Каталіцкай Царквы. Сярод гэтых апошніх былі тры жанчыны. Было там каля 60 асоб гасьцей, 120 дарадчыкаў і больш 600 журналістаў, прадстаўнікоў радыя і тэлевізыі.

Параўнаўча шмат было дэлегатак жанчын: усяго 155 асоб г. зн. адна-пятая ўсіх дэлегатаў. Тут варта адцеміць, што яшчэ ў прошлым годзе (15-24 чэрвеня 1974 г.) ў Заходнім Бэрліне адбываліся нарады жанчын пры ўдзеле 150 дэлегатак, на якіх шырока абгаварывалася справа зраўнаньня сэксу, разумеецца не ў значэньні фізыялягічным, але маральна-праўным. Тыя нарады былі падгатоўкай да Асамблеі ў Найробі.

Іншай характэрнай рысай дэлегатаў было тое, што шмат з іх было ў маладым веку: 75 дэлегатаў мела менш як 30 гадоў. Цікавым было і тое, што 300 дэлегатаў былі людзі сьвецкія — не сьвятары і не пастары.

Сярод розных прывітаньняў Асамблея атрымала і ад Папы Паўла VI, які выказваў спадзяваньні аб супрацоўніцтве Каталіцкай Царквы з іншымі »гдзе яно будзе магчымым«.

У дыскусіях парушалася шмат спраў, а некаторыя з іх мелі або вельмі мала, або нічога

супольнага з рэлігіяй. Між іншым праваслаўныя зьвярталі ўвагу на занядбаньне дзейнасьці Духа Сьвятога і містыкі ў сьведамасьці С. Р. Ц. Прадстаўнікі Евангелікаў уважалі, што С.Р.Ц. забыўся пра евангелізацыю сьвету і што сяньня каля двох більёнаў людзей на сьвеце ня чулі пра Хрыста. Ізноў-жа дэлегаты маладых афрыканскіх дзяржаваў і цэркваў дамагаліся большай незалежнасьці ў рэлігійным жыцьці. Чужанецкіх місіянераў называлі сейбітамі культурнага каляніялізму. Іншыя цьвердзілі, што навонкі магутны С. Р. Ц. ня мае супольнай багаслоўскай базы. Без сумніву выявілася гэта ў дыскусіях над адзінствам Царквы. Часам сяброўскія адносіны герархаў розных цэркваў прыймаюцца за танную манэту экумэнізму. Каталіцкія назіральнікі зьвярталі ўвагу на патрэбу адзінства ў веры, асабліва важным прызнаць адзінае сьвятарства і Еўхарыстыю, як адзнакі праўдзівай Хрыстовай Царквы.

Шмат таварылася пра расізм, а крыху толькі пра рэлігійны прасьлед у Савецкім Саюзе. Калі др. Якуб Россэль заявіў, што на Асамблеі трэба парушыць і справу прасьледу рэлігіі ў Савецкім Саюзе, мітрапаліт Ювэналі, прадстаўнік Маскоўскага Патрыярхі, сказаў: »так гаварыць гэта не шлях да сужыцьця ў любві, якога трэба спадзявацца ў сям'і Хрысьціянскіх Цэркваў...« Адным словам самі маюць завязаныя зубы бязбожным рэжымам і другім перашкаджаюць сказаць праўду.

Як цяжка йсьці да паўнаты аб'яднаньня хрысьціянскіх Цэркваў, сьведчыць хоцьбы вось гэты канцавы сказ-малітва Асамблеі Сусьветнай Рады Цэкваў: »Без Цябе мы нядужыя. Таму ўсе мы разам клічам: Мараната! Прыйдзі Госпадзе Ісусе!«

## ЛЮВЭНСКАМУ УНІВЭРСЫТЭТУ 550 ГАДОЎ

Пачаткі Лювэну былі даволі сьціплыя: у 1425 г. абанкроціўся ў ваўняным інтарэсе Брабанцкі князь Ян IV. Каб вярнуць гораду багацьце і славу выпрасіў у Папы Марціна V дазвол на школу — studium generale. У сваей просьбе князь падкрэсьліваў выгады мясцовасьці і дабрату ягоных жыхараў, а таксама адпаведны будынак, які датрываў да сяньня і яшчэ зьяўляецца адміністрацыйным цэнтрам унівэрсытэту. Хутка — бо толькі пасьля 5 гадоў ад заснаваньня агульнай школы — Папа Аўгень IV заснаваў багаслоўскі факультэт, які прынёс пазьней унівэрсытэту найбольш славы. Сярод прафэсараў яго былі Гадрыян Флёрэнс, пазьней Папа Гадрыян VI; Єразм Роттэрдамскі і шмат іншых ведамых вучоных.

Лювэнскі аднак унівэрсытэт стаўся слаўным ня толькі дзеля багаслоўскіх студыяў. Яго праславілі туманіст Юстын Ліпсіюс, картограф Мэркатар, анатаміст Вэсаліюс, вынаходца газавага сьвятла Мінкеллеіс і многія іншыя.

На працягу паўтысячнага свайго існаваньня лювэнскі унівэрсытэт падобна як і ўся сучасная Бэльгія, перажыў нямала трагічных мамэнтаў. У часе францускай рэвалюцыі (1797) ён быў зачынены і толькі з нараджэньнем сучаснай бэльгійскай дзяржавы (1831) ён быў адноўлены перш у Мэхэлэн, а стуль перанесены ў Лювэн. У час абодвых сусьветных войнаў былі зьнішчаныя багатыя унівэрсытэцкія кнігазборы і частка архіваў.

Сяньня Лювэнскі Унівэрсытэт налічвае каля 30.000 студэнтаў з розных краінаў сьвету, якія здабываюць асьвету на розных факультэтах, як права, мэдыцыны, інжынерыі і т. д. Калісьці адзінай мовай унівэрсытэту была лацінская, пасьля праз доўгі час француская. І толькі ў 1920 г. пачаліся выклады ў флямандзкай мове. У 1946 г. паўсталі пад адной адміністрацыяй дзьве паралельныя сэкцыі унівэрсытэту: француская і флямандзкая. У 1970 г. забурэньні на ўнівэрсытэце давялі да крызысу ўраду, пасьля чаго нававыбраны ўрад выдаў закон, у сілу якога прызнаваліся два аўтаномныя унівэрсытэты: флямандзкі і францускі.

Падобна як унівэрсытэт у Празе, лювэнскі мае для беларусаў асаблівае значэньне. Тут студыяваў перад першай сусьветнай вайной выдатны наш суродзіч а. Фабіян Абрантовіч і кончыў студыі са ступеньню доктара філязофіі. Пасьля зноў-жа другой сусьветнай вайны у Лювэне была праз некалькі гадоў значная група беларускіх студэнтаў, якая пакінула па сабе памяць у форме найграных грамафонных дыскаў пад кіраўніцтвам кампазытара Равенскага. У Лювэне апякаваўся беларускімі студэнтамі а. Робэрт Ван Кувэлерт. Сяньня працуе ён на місіях у Афрыцы.

## ЖАНЧЫНЫ І СЬВЯТАРСТВА

Пытаньне сьвятарства жанчын пачынае хваляваць шмат каго таксама і сярод каталікоў. Доказам гэтага канфэрэнцыя ў Дэтроіт, якая адбылася 28-29 лістапада 1975 г., а на якой прысутнічала каля 1200 чалавек улучна з законьніцамі, сьвятарамі, а нават было там і пару біскупаў. На канфэрэнцыі былі даклады і вялася дыскусія на тэму аб ролі жанчыны ў Царкве наагул і аб высьвячваньні жанчынаў у сьвятары (сьвятаркі?). Была рашуча выказаная думка аб патрэбе рабіць націск у гэтай справе на мясцовых біскупаў і арганізаваць мясцовыя камітэты.

Як дагэтуль Каталіцкая і Праваслаўныя

Цэрквы да пытаньня сьвятарства жанчын адносіліся з вялікай рэзэрвай. Затое ў пратэстанцкіх рэлігійных аб'яднаньнях гэта праблема ня толькі разважаецца тэарэтычна, але і практычна, бо некаторыя з іх далі поўныя правы жанчынам. Гэта можна назіраць у мэтадыстаў, прэзбітар'янцаў, лютаранаў, у пэўных разгаліненьнях Англіканскай Царквы (у Канадзе, Нова-Зэляндыі, Гонг-Конг). Калі йдзе аб Сусьветную Раду Цэркваў (World Council of Churches), якой сябрамі між іншым з'яўляюцца таксама Каталіцкая і Праваслаўная Цэрквы, дык аказваецца, што з ліку усіх сяброў Рады — 239, высьвячваюць жанчын у сьвятары 72 рэлігійныя аб'яднаньні.

Ня гледзячы аднак на ўсё пытаньне высьвячваньня жанчын у сьвятары вымагае шмат яшчэ студыяў тэалягічных, псыхалягічных, сацыялягічных і г. д. Хто сяньня мог-бы адказаць на такое пытаньне: калі жанчына зраўнялася-б поўнасцю з мужчынай ва ўсіх працах і абавязках — ці было-б гэта на карысьць для яе, для мужчыны, для сьвету? Як водам акіяну Бог палажыў пэўныя межы, з якіх ня могуць выйсьці, гэтак і ў натуры мужчыны і жанчыны ёсьць розьніцы і цэнныя асаблівасьці, ад якіх залежыць роля абаіх у сьвеце. Ня гледзячы на сучасныя уні-сэксуальныя напрамкі, розьніцы паміж мужчынай і жанчынай ня зьнікнуць ніколі.

## АКТ ЕВАНГЕЛЬСКАЙ ПАКОРЫ ПАЎЛА VI — ДАЛЕЙШЫ КРОК ДА АБ'ЕДНАНЬНЯ ХРЫСЬЦІЯНАЎ.

У нядзелю 14 сьнежня 1975 г. ў 10-тую гадавіну ад заканчэньня II-га Ватыканскага Сабору і ў гадавіну зьняцьця экскамунікаў Папа Павал VI адслужыў Св. Літургію ў Сыкстынскай капліцы ў Ватыкане ў прысутнасьці дэлегатаў ад Канстантынопальскага Патрыярха Дзімітра I. Дэлегацыю ачоліваў Мітрапаліт Мэлітон Хальнідонскі. Папа між іншым сказаў у сваей прамове: »Сьвяты Дух асьвяціў нашыя розумы і прывёў нас да таго, каб ясьней убачылі, што Каталіцкая і Праваслаўная Цэрквы ёсьць так цесна злучаныя, што вельмі мала не хапае ім да той паўнаты, якая дазволіла-б супольнае служэньне Госпадняй Эўхарыстыі, праз якую еднасьць Царквы вызначаецца і ўмацоўваецца«.

Мітрапаліт Мэлітон таксама зьвярнуўся ў цёплых словах да Папы. Ён казаў: »Любоўю Бога ўспамаганыя, служачы Яму і Яму вылучна, насьледваючы Яго ў любві, наш зрок ёсьць скіраваны да той апошняй і дасканалай мэты: да еднасьці ў любві, да вызнаваньня адзінай веры ў Госпадзе Ісусе Хрысьце і праз гэта вызнаваньне да асягненьня супольнасьці ў Сьвятой Эўхарыстыі«. Мітрапаліт заявіў, што ўжо створаныя дзьве асаблівыя Камісіі: Агульна-Праваслаўная і ўнутры Канстантынопальскага Патрыярхату дзеля разгляду багаслоўскіх пытаньняў і дзеля навязаньня дыялёгу з Рымскай Царквой.

»Мы шчасьлівыя — казаў Мітрапаліт Мэлітон — бо праз гэты канкрэтны крок наперад пасьля 10-ці гадоў ад зьняцьця экскомунікі мы сталіся прадстаўнікамі і ходайнікамі волі Хрысьціянскага Ўсходу, каб разам з Хрысьціянскім Захадам і ў лучнасьці з ім даць сьвядоцтва аб тым, што ў нас адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост, адна Царква і адзін Божы Сьвет«.

Калі Павал VI скончыў сваё слова, падыйшоў да Мітрапаліта Мэлітона, упаў перад ім на калені і пацалаваў Ягоныя ногі. Гэта інакш назваць немагчыма як толькі актам глыбокай хрысьціянскай евангельскай пакоры. А ці-ж Ісус Хрыстос, Сын Бога жывога, не даў нам прыкладу гэраічнай пакоры, прыкладам, калі умываў ногі галілейскім рыбакам, няхай-сабе і Ягоным вучням? Або, калі нёс крыж і падаў пад ім? Папа стараецца йсьці сьледам Хрыста.

Праз непаразуменьні і гордасьць падзялілася хрысьціянства, праз спакойны дыялёг і пакору яно ізноў лучыцца. Дай Божа, каб гэта якнайхутчэй сталася!

## ЦІКАВАЯ КНІЖКА

Марсэль Клемант (Marcel Clement) францускі вучоны, журналіст, аўтар розных кнігаў, напісаў апошнім часам яшчэ адну цікавую кнігу: »Хрыстос і рэвалюцыя«. З францускай пераклала яе на ангельскую мову др. Аліс фон Гільдэбранд і выйшла яна з друку ў выдавецтве: Arlington House Publishers, New Rochdale, N.Y., 1974.

Пытаньне Хрыста — рэвалюцыянера інтрыгавала здаўна нямала пісьменьнікаў, казнадзеяў, а ў апошніх часах і рэжысёраў фільму. У сувязі з гэтым вяжыцца таксама пытаньне: »Ці Евангельле дае адказ на сучасныя балючыя сацыяльныя праблемы?«

Марсэль Клемант цьвердзіць, што найбольш ударнай, ды найбольш практычнай і унівэрсальнай грамадзкай місіяй, вызначанай для ўсяго чалавецтва зьяўляецца акурат навучаньне Ісуса Хрыста. Аднак не было гэта першым і галоўным заданьнем Хрыста аднавіць тое грамадзянства, якое Ён знайшоў.

Свабода Хрыста — гэта ў першую чаргу асвабаджэньне зь няволі грэху, з ланцугоў Сатаны. Хрыстос прапаведваў хрост сукрухі сэрца, а гэта ачышчае ад грэху. Такое асвабадженьне адбываецца ў унутры душы чалавека,

ў цішыне, ў малітве, ў пакуце і ў злучэньні душы з Богам. Хрыстос адкупіў чалавека праз жэртву на крыжы, вызваліў яго ад арыгінальнага грэху, як і ад кожнага іншага, калі чалавек належна пакутуе.

У працэсе поўнага людзкога вызваленьня і прыдбаньня сьвятасьці з боку чалавека ёсьць патрэбнай ягоная супраца. Чалавек павінен памерці для самога сябе і адкінуць Сатану і ягоныя прыхаці. Патрэба ахвяраў, каб быць у еднасьці братэрскай і з Хрыстом; каб падтрымаць свайго брата у цяжкасьцях, каб несьці ўласны крыж, каб штодня жыць з веры, надзеі і любві. У сутнасьці такое братэрскае надпрыроднае жыцьцё ёсьць вынікам унутранага містычнага жыцьця малітвы і вонкавага жыцьця ўзбагачаванага праз Сьвятыя Тайны. Тут скрываецца грамадзкая місія Евангельля: супраца ў любві членаў Містычнага Цела, каб усе расьлі і дасьпевалі пад кіраўніцтвам Хрыста — Галавы ўсяго Цела.

У далейшым аўтар кнігі разглядае змаганьне клясаў, свабоду паводле Руссо і паводле французкіх энцыкляпэдыстаў, сацыялізм Прудона, Маркса. Некаторыя каталікі сяньня, кіраваныя нязгоршымі інтэнцыямі, каб перамагчы грамадзкую несправядлівасьць, замест углыбіцца ў запраўдны зьмест Евангельля, імкнуцца »ахрысьціць« сацыялізм і камунізм. Зрабіць іх больш людзкімі і хрысьціянскімі, бо-ж зерне праўды ўсюды ёсьць . . .

Марсэль называе гэтакіх каталікоў наіўнымі. Звычайна яно бывае гэтак: хто адкіне найважнейшае з Евангельля, г. зн. змаганьне з Сатаной і грэхам, а ймкнецца выбавіць чалавека толькі з бедаў і матэр'яльных нястачаў, асвабаджае таго-ж чалавека ад усялякага права — людзкога і Боскага. А тады філязофы і выканаўцысатрапы іхніх ідэеяў трапляюць у тую бяздоньніцу, якую мы назіраем там, дзе сяньня ўладаюць сацыялізм і бязбожжа.

Варта пазнаёміцца з кніжкай Марсэля кожнаму, хто жадае пазнаць глыбей Хрыста і Яго навучаньне ў адносінах да нашых часаў.

## БЭАТЫФІКАЦЫЯ ЛЕКАРА ЯЗЭПА МАСКАЦІ (GIUSEPPE MOSCATTI)

У нядзелю 16 лістапада 1975 г. Папа Павал VI ўпісаў у лік багаслаўлёных лекара Язэпа Маскаці. Факт увядзеньня кагосьці ў лік сьвятых заўсёды зьяўляецца няштодзённай падзеяй у жыцьці Царквы. Калі гэта аднак здараецца з чалавекам, якога многія з жывучых сяньня добра памятаюць або дзеля яго спэцыяльнай прафэсыі, як у выпадку багаслаўлёнага Маскаці, ведамага прафэсара мэдыцынскіх навук і лекара — тады сам акт бэатыфікацыі прыцягвае больш увагу чымся звыкла яно бывае.

Язэп Маскаці радзіўся 25 ліпня 1880 г. ў Бэнэвэнто ў паўдзённай Італіі. Прыйшоў ён на сьвет сёмы ў сям'і. Хутка, бо ўжо ў 1888 г., пераехаў хлапчук у Нэапаль і тут скончыў вышэйшыя студыі, патрэбныя для лекара, маючы ўсяго 22 гады. Быў ён слаўным прафэсарам, але за славай ён не ганяўся, а яна йшла за ім у здагон і гэта дзеля ягонай незвычайнай дабраты і ахвярнасьці. А хто-ж мае больш нагодаў чымся лекар, каб ня толькі хірургічным нажом ці мэдыцынай рабіць прыслугу бліжняму, але і добрым словам? Каб пацешыць, супакоіць чалавека . . . Такім бязьмежнай дабраты чалавекам быў багаслаўлёны Язэп. Калі ў 1906 г. выбухнуў неспадзявана Вэзувій, Язэп пасьпяшыў у шпіталь інвалідаў, ня гледзячы на гарачы попел, які пакрываў лекара і ледзь не засыпаў яго. Аднак ён дайшоў да інвалідаў і выратаваў іх ад гібелі. У час першай сусьветнай вайны знаходзім Язэпа на фронце таксама сярод параненых і інвалідаў. У 1919 г. ён назначаецца дырэктарам аддзелу для невылечальна хворых. Першым яго дзелам было павешаньне крыжа ў залі апэрацыйнай з надпісам: »О, сьмерць, я буду тваёй сьмерцю!« Так, бо-ж Хрыстос праз сваю сьмерць перамог сьмерць.

12 красавіка 1927 г. аднак і сам Язэп — добры і ласкавы лекар прыняў з волі Божай сваю сьмерць, але праз хвіліну ён ужо цешыўся вечным жыцьцём. Аб гэтым сьведчыць Царква актам бэатыфікацыі.

## НОВАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ АБ ВЫБАРЫ ПАПЫ

1 кастрычніка 1975 г. Папа Павал VI абвясьціў новую канстытуцыю аб выбары Папы, якая ад пачаткавых слоў атрымала назоў: »Romano Pontifici Eligendo«. Ў аспаўным яна паўтарае зьмест папярэдніх кантытуцыяў, галоўнай мэтай якіх было і астаецца законнасьць выбару Папы і свабода выбаршчыкаў.

На працягу даволі абмежанага часу пасьля сьмерці Папы, бо не раней чымся 15 дзён і не пазьней 20, усе кардыналы — а іх мае быць ня больш чымся 120 і ў веку ніжэй 80 гадоў — павінны сабрацца й зачыніцца ў Ватыкане на г. зв. канклявэ. Тэхнікі маюць дагледзіць Сыкстынскую капліцу і памешканьні кардыналаў так, каб было немагчымым падслухоўваньне (навінка нашых часаў). І надалей астаецца ў моцы той парадак, што Папу выбіраюць вылучна кардыналы, хаця няраз адзываліся царкоўныя дзеячы, а нават і сам Папа, што ён можа быць зьменены. Найбольш праўдападобным ёсьць, што ўсходнія Патрыярхі самі не захацелі ўваходзіць у выбарчую калегію, а гэта таму, каб не нарушаць здаўна прынятай традыцыі Заходняй Царквы. Рымскага біскупа, які аўтаматычна становіцца Папам, заўсёды выбіралі людзі звязаныя з рымскай тэрыторыяй і лацінскага абраду.

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

### Багаслаўленьне Айца Ўладзіміра Тарасэвіча у сан Архімандрыта

25 траўня 1975 г. у час урачыстай сьвятой Літургіі ў беларускай царкве Хрыста Спаса ў Чыкага быў пастаўлены біскупам Ч. Сіповічам а. Уладзімір Тарасэвіч у сан архімандрыта. Саслужылі Літургію а. Янка Тарасэвіч, родны дзядзька архімандрыта і шматлікія сьвятары сябры а. Ўладзіміра. Прысутнічалі таксама два бэнэдыктынскія абаты Д. Кучэра і Т. Гаўлік. Хвалюючым быў мамэнт, калі старэнькая маці айца Ўладзіміра паднясла прыгожы крыж, а сястра Юзэфа мітру, якія пераняў з іхніх рук біскуп і перадаў новапастаўленаму архімандрыту. Пасьля Літургіі духавенства і блізу ўсе вернікі на ёй прысутныя сабраліся ў залі шыкарнага рэстарана. Тут пры ядзе і тостах з пажаданьнямі для архімандрыта шмат было прамоваў, а таксама адбываліся канцэртныя партыі музыкі і сьпеваў. Зьместам і прыгожым пераказам яго адзначаліся асабліва ярка прамовы абата Гаўліка, доктара В. Рамука і спадарыні Веры Бартуль, якая перадала прывітаньні ад імя беларускіх арганізацыяў Нью Ёрка. Урачысты банкет закончыўся прамовай а. Архімандрыта Ўладзіміра і супольнай малітвай.

### Юбілей Мітрапаліта Андрэя

У гэтым годзе (1975) дня 25 чэрвеня выпадалі 25-ыя ўгодкі сьвятарскага служэння Я. Д. Мітрапаліта Андрэя (Крыта), Галавы БАПЦ. Урачыстае аднак сьвяткаваньне было вызначана на дзень 13 ліпня і тады яно адбылося пры катэдры ў Клівэлянд пры удзеле Я. Д. Біскупа Мікалая (Мацукевіча), сьвятароў і шматлікіх вернікаў. Мітрапаліт Андрэй быў высьвячаны на сьвятара ў Вялікабрытаніі Архіяпіскапам Васілём (Тамашчыкам). У лютым 1961 г. ён пераехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі і быў назначаны кіраўніком парахвіі ў Кліўлэндзе. У 1968 г. ёсьць хіратанізаваны ў Аўстраліі ў сан Біскупа. Пасьля сьмерці Архіяпіскапа Васіля выбраны Мітрапалітам і ад таго часу кіруе БАПЦ. Я. Д. Мітрапаліт Андрэй з нагоды свайго юбілею атрымаў шмат прывітаньняў і пажаданьняў. Наша рэдакцыя таксама да іх далучаецца і з гэтай нагоды жадае Дастойнаму Герарху »эйс полла этэ дэспота!«

### Рэкалекцыі для сьвятароў епархіі Пассаік і высьвяціны Эдварда Казіміра Вайцехоўскага

На просьбу Я. Д. Біскупа Міхала Дудзіка, кіраўніка карпатароскай епархіі Пассаік, Біскуп Ч. Сіповіч згадзіўся даць рэкалекцыі для ягоных сьвятароў. Рэкалекцыі адбыліся ў зацішным манастыры Айцоў Францішканаў у Нью Канаан, недалёка Стамфорд, для дзьвюх групаў сьвятароў: для першай групы ад 15 да 19 верасьня, а для другой ад 22 да 26 верасьня 1975 г. У кожнай групе было каля 30 сьвятароў.

У рэкалекцыях прыймаў удзел таксама Эдвард К. Вайцехоўскі. Ён прыгатаўляецца да сьвятарства і жадае працаваць у будучыні сярод беларусаў. Радзіўся ён у Чыкага 9 сакавіка 1927 г., мае закончаную вышэйшую асьвету са ступенькай доктара філязофіі. Знае некалькі славянскіх моваў у тым ліку і беларускую. Дня 19 верасьня 1975 г. Эдвард Казімір Вайцехоўскі ў капліцы Айцоў Францішканаў у Канаан быў высьвячаны Біскупам Ч. Сіповічам, Апостальскім Візытатарам для Беларусаў, у стан чытача, сьпявака і ыподыякана.

### Наведваньне Біскупам Ч. Сіповічам беларускіх асяродкаў

Будучы ў Зл. Штатах Амэрыкі Біскуп Ч. Сіповіч адведаў некаторыя беларускія асяродкі. Ад І-га да 4-га кастрычніка быў у Кліўлендзе, дзе зрабіў візыт Я. Д. Мітрапаліту Андрэю, адведаў беларускі асяродак Полацк; сп. Белямука, дзе пазнаёміўся з яго багатым зборам кніжак асабліва ў галіне гэральдыкі і манэт; сп. А. Змагара (Яцэвіча), беларускага кнігалюба і паэта. Усё гэта было магчыма зрабіць у кароткім часе дзякуючы ветлівасьці спадарства КахаНоўскіх, у якіх Біскуп затрымаўся. Блізу ўсе ўспомненыя тут асобы ахвяравалі штосьці цэннага для ББіМ ў Лёндане. І так сп. Белямук перадаў тры зшыткі часапісу »Квартальнік Літэвскі«, Пецярбург, 1910 г. і сем зшыткоў часапісу »Літва і Русь«, Вільня, 1912 і 1913 г. — Сп. Карніловіч перадаў ручна тканы ручнік з ваколіцаў Белавежы, а спадар Каханоўскі некалькі цэнных часапісаў і здымкаў.

5 кастрычніка 1975 г. на просьбу Аддзелу Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў Біскуп Ч. Сіповіч адслужыў паніхіду перад помнікам беларускіх гэрояў на могілках у Нью-Брансвік і сказаў прынагоднае слова. Пасьля паніхіды ў царкоўна-грамадзкім цэнтры ў Гайленд Парку было зладжанае прыняцьце, у час якога розныя прамоўцы віталі Ўладыку Часлава і разьвівалі кожны па свойму тэму, у якой сутнымі былі і ўсьцяж паўтараліся два словы: Бог і Бацькаўшчына. Сп. Гутырчык падаў кароткі жыцьцяпіс Ўладыкі, а сп. Сокал падарыў у Беларускі Музэй у Лёндане некалькі манэтаў і мэдаляў.

У гэтым самым беларускім асяродку 11 кастрычніка Біскуп Ч. Сіповіч меў даклад для

моладзі. Кіраваў зборкай Старшыня арганізацыі сп. Азарка. Даклад быў ў ангельскай мове, пасля якога вялася дыскусія і гутаркі пры шклянцы гарбаты.

### 29-ты Агульны Звычайны Зьезд ЗБВБ

Як кожнага году адбыўся дня 7 чэрвеня звычайны агульны з чаргі 29-ты Зьезд сяброў і дэлегатаў ЗБВБ у Беларускім Доме ў Лёндане, 52 Пэнн Роўд. Адкрыў Зьезд сп. Я. Міхалюк, старшыня Галоўнай Управы. Хвілінай цішыні прысутныя ўшанавалі памяць тых сяброў ЗБВБ, якія адыйшлі ў вечнасьць. Наступна а. Я. Пекарскі прачытаў малітву. Мандатная Камісія ў асобах: М. Віценчык, Я. Мазура і С. Буткевіч, сьцьвердзіла правамоцнасьць Зьезду. У склад прэзыдыюм Зьезду былі выбраныя спадары: Я. Сяўковіч — Старшыня, М. Баяроўскі і А. Лашук — сакратары. Ад Галоўнай Управы зрабілі справаздачу Я. Міхалюк і П. Асіповіч, пасьля былі зачытаныя справаздачы ад Управаў паасобных Аддзелаў, а таксама ад Дамоў і Клюбаў, якіх ЗБВБ зьяўляецца собснікам. У выніку перавыбараў у новую Галоўную Управу ЗБВБ увайшлі: Павал Навара — Старшыня, Алесь Жданковіч — Заступнік Старшыні, Алесь Лашук — Сакратар, Павал Асіповіч — Скарбнік і Янка Сяўковіч — Сябра. У склад Нагляднай Рады і Сяброўскага Суду былі выбраныя: Алёна Міхалюк — Старшыня, Хвёдар Кажаневіч — Сакратар і Міхась Баяроўскі — Сябра. Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну: »Мы выйдзем шчыльнымі радамі« працы Зьезду памысна закончыліся.

### Міжнародны Фэстываль у Чыкага

Кожнага году адбываецца гэты Фэстываль з шумам, радасьцю і з напружаньнем нэрваў, бо-ж кожная нацыя імкнецца зладзіць як мага найбольш атракцыйна свой стэнд, паказаць сваё мастацтва дый роскаш сваіх страваў. Беларусы не адставалі і ў гэтым годзе (лістапад 1975) ад іншых нацыяў, а нават былі больш ад іншых на віду, бо-ж на долю беларускі выпала быць каралевай Фэстывалю! На вялікі жаль наша энтузыястка гэтак памыснай імпрэзы, ў якую ўкладала ўсю сваю душу,сп-ня В. Р. захварэла. Усё, што здарылася нас вучыць, што трэба быць моцнымі ў радасьцях і крыжах, якія пасылае нам Бог у сваім загадкавым провідзе.

### Розныя ўгодкі ведамых беларусаў на эміграцыі

У Сыднэі ў Аўстраліі беларускае грамадзтва ўшанавала належна др. Язэпа Малецкага, якому сёлета споўнілася 40 год лекарскай дзейнасьці. Др. Малецкі, гадунец друйскай гімназіі Айцоў Марыянаў, дабрадзей цяперашняга іхняга манастыра ў Лёндане, а таксама і Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны. Беларускага сына Язэпа з Якужаў бура сусьветных падзеяў занесла аж у краіну эўкаліптаў і кенгуроў... Ня скрыўся ён аднак ад сваіх суродзічаў і памагае ім ня толькі як фаховы доктар, але таксама як дзейны сябра беларускіх арганізацыяў, як аўтар кароткіх зьмястоўных артыкулаў і як шчодры ахвярадаўца. Дык сто год, дарагі доктар!

У Канадзе ў Торонто ў залі БРГЦ дня 15 лістапада адбыўся вечар у гонар Кастуся Акулы, ведамага дзеяча і пісьменніка, якому споўнілася 50 гадоў жыцьця. Акула стаўся ведамым як рэлактар першай беларускай газэты ў Канадзе і аўтар кніг »Змагарныя Дарогі«, »Гараватка« (кніга выйшла ў дзьвёх частках) і інш. Шчырыя пажаданьні шле рэдакцыя »Б. Шл.« сп. К. Акулу якнайлепшых посьпехаў у наступным поўстагодзьдзі.

Даведваемся, што ў гэтым годзе (1975) споўнілася 65 гадоў жыцьця доктару Вітаўту Тумашу. Ведама, што доктар ахвотна і фахова дапамагае сваім суродзічам, але таксама ведама і тое, што ён увесь час, які яму астаецца ад заработнай прафэсыйнай працы пасьвячае далейшым няўтомным студыям, чаго вынікам ёсьць некалькі выданых ягонага аўтарства кніжак, артыкулаў. Заслужана прызнана яму годнасьць навукоўца — скарынаведа. Шчасьці Божа ў далейшай працы!

Таксама ў гэтым годзе кампазытарцы Эльзе Зубковіч (дзявоцкае прозьвішча Пілеман), аўтарцы зборніка песьняў »Край мой васількова« споўнілася 80 год жыцьця. З гэтай нагоды кампазытар Алесь Карповіч прысьвяціў ей зьмястоўны артыкул у »Беларусе« (Нр. 223-24, 1975 г.).

### Сярэбраны юбілей Спадарства Кажаневічаў

Вельмі міла і гучна дня 15 лістапада 1975 г. сьвяткавалі ў Манчэстар сярэбраны юбілей сужэнства спадарства Кажэневічы. Гэта сям'я мяшаная беларуса і італьянкі (дзявочае прозьвішча Кальцуоля) і таму ў іхнім доме нярэдка можна пачуць апрача беларускай і ангельскай таксама італьянскую мову. Юбілейная ўрачыстасьць распачалася ў беларускай праваслаўнай царкве, дзе адслужыў малебен і сказаў прывітальныя словы а. протоерэй Я. Абабурка. Пасьля ўсе сабраліся ў залю на вячэру-банкет. Заля была перапоўненая, сталы застаўленыя рознага роду стравамі розных смакаў і звычаяў. Сп. Я. Калбаса адчытаў прысланыя прывітаньні. Пасьля сп. Кляйноў (»сват«) удзяляў голасу розным прамоўцам, пачынаючы ад айца прот. Я. Ябабуркі. Прамаўлялі сп. М. Яськевіч, Алёна і Янка Міхалюкі, дачка сп-ва Кажаневічаў Надзя, біскуп Ч. Сіповіч у трох мовах: беларускай, ангельскай і італьянскай. Усе пра-

моўцы зьвярнулі ўвагу на патрыятызм, грамадзкасьць і гасьціннасьць сп-ва Кажаневічаў. У самым канцы падзякаваў усім сп. Хв. Кажаневіч. Песьні аднак і скокі прадаўжаліся. Шчасьці Божа сям'і Кажаневічаў!

### Прыняцьце у Спадарства Макміллян у 21-ую Гадавіну Ангельска-Беларускага Таварыства

Дня 25 лістапада 1975 г. Спадарства Макміллян прыймалі ў сваім доме ў Лёндане шматлікіх гасьцей (звыш 50 асоб) з культурнага і палітычнага сьвету, каб адзначыць 21-ую гадавіну існаваньня і дзейнасьці Ангельска-Беларускага Таварыства, якога сп-ня Макміллян Старшынёй (the President). Былі прысутныя сябры Таварыства, прафэсары унівэрсытэтаў, члены Брытыйскага Парляманту, прадстаўнікі арганізацыяў розных нацыянальнасьцяў. Прамаўлялі: сп. Я. Джёліфф, цяперашні Старшыня Таварыства (the Chairman), др. А. Макміллін і ад беларусаў біскуп Ч. Сіповіч. Прамоўцы прыпомнілі першыя гады дзейнасьці Ангельска-Беларускага Таварыства, калі быў вельмі рухлівым у ладжаньні розных імпрэзаў сьв. п. Обэрон Гэрбэрт. Яны падкрэсьлілі таксама важнае значэньне англя-моўнага часапісу, які выдае Таварыства на працягу 10-ці гадоў і курсаў беларусаведы, якія без перапынку вядуцца пачынаючы ад 1966 г. Выданая друкам прынагодная лістоўка, якая раздавалася прысутным, інфармавала аб строю і дзейнасьці арганізацыі. Варта адцеміць незвычайную ветлівасьць гаспадароў прыняцьця сп-ва Макміллянаў. I гэта мае сваё значэньне для далейшага разьвіцьця і дзейнасьці Таварыства.

### Купля з ліцытацыі беларускіх старадрукаў

Аб гэтым інфармуе ў спэцыяльным артыкуле а. А. Надсон, які сам езьдзіў у Монако і блізу ўсё беларускае выкупіў і шчасьліва прывёз у Лёндан. Тут падаём да агульнага ведама, што на заклік Управы ББіМ да беларускага грамадзтва, каб яно сваімі ахвярамі дапамагло зьдзейсьніць выкуп беларускіх помнікаў, многія адгукнуліся і падтрымалі ініцыятыву ня толькі словам заахвоты, але прыслалі значныя ахвяры, якія ў суме далі 2/3 патрэбнай на выкуп сумы. А гэтая раўняецца 2640 англ. фунтаў. На жаль, дзеля страйку пошты, Управа ББіМ не магла зьвярнуцца да нашых суродзічаў у Канадзе. Спадзяёмся, што і яны прышлюць сваю дань, каб дапамагчы сплаціць задоўжанасьць Бібліятэкі.

### 55-ыя ўгодкі Слуцкага паўстаньня

29 лістапада 1975 г. ў залі школы сь. Кірылы Тураўскага адбылася акадэмія прысьвячаная 55-ым угодкам Слуцкага паўстаньня. Прыйшло на яе шмат беларусаў з Лёндану і ваколіцаў. Даклад прачытаў сп. Алесь Жданковіч, а вершы на тэму Слуцкага збройнага чыну чытаў сп. Залога. Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну акадэмія была закончана.

### Лекцыя беларусаведы

Лекцыяй др. Арнольда Макмілліна: »Чорт, селянін і жыд — праявы ў беларускай літаратуры XVIII-га стагодзьдзя« — распачаўся дзесяты з чаргі курс беларусаведы ў Лёндане, ў залі беларускай школы сьв. Кірылы Тураўскага. Пры гэтай нагодзе адцемім, што др. А. Макміллін апрацаваў абшырную гісторыю беларускай літаратуры, якая, магчыма, на працягу гэтага году — выйдзе з друку. Лекцыя — гэта маленькая частка успомненай працы.

### Лекцыя у Баптыстаў

На просьбу парахвіі Баптыстаў у паўночным Лёндане, Норз Фінчлі, дня 11 сьнежня 1975 г. біскуп Ч. Сіповіч прачытаў для вернікаў Баптыстаў лекцыю на тэму: »Беларусы і іхнія Цэрквы«. Пасьля дакладу некаторыя з прысутных давалі розныя пытаньні пераважна пра Беларусь, пра нацыянальнае і рэлігійнае палажаньне, пра царкоўныя арганізацыі на эміграцыі. Сярод слухачоў было двох старэйшых кіраўнікоў. Дыскусія і цэлы вечар прайшоў у прыемнай братэрскай атмасфэры. Пра даклад былі пасьля водгугі ў мясцовай ангельскай прэсе.

### Музэй атэізму ў Полацкай Сьвятой Сафіі

Нямецкі часапіс: »Christus dem Osten«, за чэрвень 1975 г. падае, што мае паўстаць новы музэй гісторыі бязбожжа ў старадаўнай Полацкай катэдры Прамудрасьці Божай (Сафія). Гэта быўбы першы такога роду музэй у Беларусі, а чацьвёрты ў цэлым Савецкім Саюзе. Дырэктар таго музэю — як падало »Знамя Юности« з дня 13. 2. 1975 г. — заявіў адкрыта, што галоўнай яго мэтай ёсьць бязбожная прапаганда. Усё ў тым музэі мае быць так уладжана, каб пераканаць наведвальнікаў, што ня Бог стварыў чалавека, а чалавек Бога. Там-жа мае быць цэнтр прыгатаваньня кваліфікаваных прапагандыстаў атэізму.

### Новы беларускі часапіс у Нью Ёрку

У кастрычніку 1975 г. выйшаў двумоўны часапіс: »The Byelorussian Times«, — Час, выдавец др. Р. Гарошка. Часапіс ставіць сваім заданьнем »інфармаваць англамоўны сьвет з беларускай праблематыкай, а так сама інфармаваць беларускае грамадзтва аб сацыяльна-грамадзкіх і палітычных праблемах ягонага жыцьця. Новая беларуска-ангельская газэта ёсьць значным фактарам прагрэсу й нашай грамадзкай дасьпе-

ласьці ды ўзросту палітычнай вызваленчай ідэі« (Час, Ад рэдакцыі, с. 5).

Калі з першай часткай прыведзеных тут сказаў трэба згадзіцца, бо-ж кожны беларус патрыёт будзе цешыцца, што заіснаваў англямоўны часапіс, які інфармуе англя-моўны сьвет пра Беларусь, яе культуру і г. д., то немагчыма прыняць другое цьверджаньне. Ці-ж запраўды кажная новая газэта або часапіс зьяўляюцца »значным фактарам прагрэсу«, »грамадзкай дасьпеласьці«? Гэта ўсё яшчэ трэба даказаць, а доказы залежаць ад доўгавечнасьці і зьместу часапісу. Як яно будзе — »Час« пакажа!

### Беларускія перадачы у Ватыканскім радыё

Перадаюцца пяць разоў у тыдні на кароткіх хвалях 41, 31 і 25 кожнага панядзелка, серады, чацьверга, пятніцы і ў нядзелю а гадзіне 18,45 эўрапэйскага часу. Часта можна чуць гэтыя перадачы таксама і ў Лёндане (зімой а гадз. 17,45). Ватыканскае радыё выдае кожнага месяца праграму, дзе можна знайсьці час перадачаў на розных мовах, а таксама і ў беларускай мове.

# ДЗЕЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

### Дзюбуа-Реймон пра навуку

Навука ніколі не адкажа на гэтых 7 пытаньняў: 1) Што такое матэрыя і яе сілы? 2) Адкуль яна ўзялася і як пачала варушыцца? 3) Адкуль узялося жыцьцё 4) Скуль узялася сьведамасьць і пачуцьцё 5) Адкуль узялася чалавечая думка і сам чалавек? 6) Адкуль у сьвеце парадак і мэтазгоднасьць у прыродзе? 7) Што такое вольная воля?

### Кард. Макты пра моладзь

Моладзь не адкідае праўды Евангельля. Яе зьнеахвочвае непасьлядоўнасьць і рэлятывізм старшага пакаленьня. Моладзь жадае аўтэнтычнай жывой веры, якая давала-б натхненьне і кіравала-б жыцьцём. Моладзь імкнецца да інтэграцыі сучаснага чалавека, раздвоенага паміж жыцьцём і верай. Я глыбока ўпэўнены, што родзіцца новы сьвет, які шукае Бога, які хоча прыняць праўду сьвятога Евангельля, але пры такім угаворы, што праўда ня будзе апранута філязофіяй, звычаямі і нормамі мінулага часу.

### Маркс пра крытыку, а Ленін пра рэлігію

Крытыка неба абяртаецца ў крытыку зямлі; крытыка рэлігіі — ў крытыку права; крытыка багасловія — ў крытыку палітыкі. (Маркс). — »Барацьба з рэлігіяй — абэцэда ўсяго матэрыялізма« (Ленін).

### Англіканскі Біскуп пра камуністычны ўрад

Др. Мэрвін Стоквуд на бачынах камуністычнай ангельскай газэты »The Morning Star« піша: »Тыя з нас, якія адведалі сацыялістычныя краіны ведаюць, што каб камуністычны ўрад устанавіўся ў Брытаніі, Вэст Энд (часьць гораду Лёндану) былі-б ачышчаны на працягу ночы і агідныя праявы нашага распуснага грамадзтва зьніклі-б на працягу некалькі дзён. На гэта »The Daily Telegraph« адказаў: »Магчыма. Але таксама ёсьць пэўным, што зьнікла-б шмат іншых рэчаў, а між імі і свабода хрысьціянскіх біскупаў гаварыць, што ім падабаецца . . .«

### З прамовы Сахарава

Сахараў атрымаў нагароду Нобэля, аднак савецкі рэжым не дазволіў яму самому атрымаць той нагароды. Гэта зрабіла ягоная жонка. Яна таксама прачытала прыгатаваную сваім мужам прамову. Тут падаём некалькі характэрных сказаў.

»Маецца шмат прызнакаў таго, што пачынаючы ад другой палавіны XX-га ст. чалавецтва ўвайшло ў асабліва крытычны адказны пэрыяд сваей гісторыі«. У выніку існуючага ў сацыялістычных краінах эканамічнага, палітычнага і ідэалагічнага монізму не хапае: »свабоды пераконаньняў, адсутнічае асьвечаная грамадзкая апінія, няма свабоды друку і іншых сьродкаў інфармацыі. А між іншым гэтыя ўмовы зьяўляюцца неабходнымі і то ня толькі, каб унікнуць злоўжываньня прагрэсам — а яно можа здарыцца хочаш гэтага ці не — але і дзеля яго падтрыманьня«.

### З ліста а. Глеба Якуніна да V-ай Асамблеі Сусьветнай Рады Цэркваў

». . . ад 1959 г. да 1965 на тэрыторыі Савецкага Саюзу было зачынена звыш 10 тысяч праваслаўных цэркваў«.

»Па заказу Маскоўскай Патрыярхіі і ВСЕХБ Бібліі друкаваліся малым тыражом у дзяржаўных тыпографіях, купіць аднак іх магчыма толькі за межамі«.

### Адзін чалавек тое значыў што сотні — Кастусь Каліноўскі

»Гэта была натура гвалтоўная, але справядлівая, без ніякага ашуканства . . . Гэты адзін чалавек тое значыў, што сотні, бо ўмеў працаваць, ахвяроўваць сябе і ўкрывацца«. (Паводле Гейштара).

*Я. ЛАЎРЫНОВІЧ*

# СЕЛЯНІН І ПАЛЯЎНІЧЫЯ

**Пад вечар селянін разьвёў агонь у полі**
**І дар зямлі Азтэкаў пячэ сабе на волі.**
**Угледзіўшы агонь, бульбачкі пачуўшы пах**
**Стральцы, што трубілі па пустэчах і кустах,**
**Сышліся ўсе сюды: пагрэцца, асушыцца**
**Паесьць ды ў грамадзе пражыўшым пахваліцца.**

**Кіпелі гутаркі і спрэчкі,**
**Хто стрэліў добра без асечкі,**
**Хто забіў зайца, хто лісіцу,**
**Хто барсука, а хто курыцу.**

**Тымчасам агонь гас, зьменшаўся вачавідна,**
**Так было ня ёмка, а нат крышку й стыдна,**
**Бо бульбу елі ўсе і шумна гаманілі,**
**А пра наказ важны так дурна прызабылі:**
**Хсчаш грэцца пры агні,**
**То дроў з лесу прыцягні.**

Сыднэй, 1974 г.

———0———

*К. Ч-р*

# СУСЕДЗТВА

Пэўна, калі разважаць наступны выпадак з пункту гледжаньня жаночага, дык вінаваты мужчына, а не наадварот. Але па мойму дык вінаватыя абое; а можа, як кажуць, лёс ці доля такая? . . .

У Аўстраліі ведамае існуе »добра-суседзтва«, значыць добрыя адносіны зь людзьмі, што жывуць поруч — праз плот ці нават на аднэй вуліцы. Гэта тое, што называецца »пачуцьцё прыязьні« і пэўнасьць, што ў трудную хвіліну сусед паможа добрым словам, радай або й дзелам падасьць руку помачы і не пакіне ў бядзе. Дый аўстралійцы славіліся гэтым заўсёды, а прытым і прагрэс робіць сваё. Як разумеюць тут суседзтва ў штодзённым жыцьці? Вось сусед мой косіць машынкай свой газон:

»Эй, сусед-Кон! — (так мяне тут называюць), — можа й табе скасіць разам твой?« Або ідзеш пешкі кудысьцьці, дык мінаючы цябе сусед ніколі ня міне, а затрымаецца дый аклікне: »Хочаш — падвязу!« Або гаспадыня рыхтуе абед — аж не хапае бульбы, солі ці чаго іншага, дык бяжыць да суседкі, або нават не хапае некалькі даляраў з тым, што вернеш у незабаве . . .

А нам, бадзякам, прыбыўшым у гэтую дабрадзейную краіну, такі абычай вельмі спадабаўся: ледзь што — нашая бяжыць да аўстралійкі.

»Міленькая, пазыч некалька бульбінак! Не хапіла, а я заўтра вярну. І . . . аддаеш за тыдзень, але аўстралійка маўчыць.

Або выдарылася няўдача: у хаце — ані цэнта няма пры душы! — Пазычыць, а ў пятніцу муж прынясе выплату і »я Вам вярну ў суботу!« Але аддае толькі за т р ы тыдні . . . Аўстралійка не пратэстуе — думае, што ў беларусаў такі звычай.

Нават бывае й так: у суседа здарыўся пажар й згарэла хата, й ужо назаўтра суседзі зьбіраюць ахвяры і ўсялякімі спосабамі стараюцца памагчы. Больш таго, мэр гораду дае заклікі да грамадзтва, каб складалі ахвяры пагарэльцу . . .

Такою Аўстралія была, але мяняюцца людзі й пашло нешта іншае, — зрабілася тут трэшчына й няма каму замазываць. Ну, мы пяройдзем да галоўнага!

———*———

Сям'я Камароўскіх жыла сабе ўжо толькі ўдваіх: дзеці пажаніліся і адышлі кажнае ў свой шлях; а старыя асталіся ў сваей хатцы, якую набылі даўней цяжкой працай. Якраз у гэты дзень сам Камароўскі апалоў градкі кветак, якія ён даглядае, бо вельмі іх любіць. Вось ён стаяў і паліваў іх са шлянга, а жонка варыла каву і прыгатавала палудзень і яшчэ смажыла бульбу са сланінай, якую муж надта любіў з кіслым малаком. Зігацела сонейка, сінела васільковае неба бяз аднаго воблачка; шчабяталі птушачкі, а патэфон у хаце наігрываў беларускія кружэлкі і мэлёдыі несьліся праз адчыненае акно. Словам, жыві і Бога хвалі дый радуйся! Ажно жонка гукнула: »Кастусь, кава гатовая!« А ён не разслухаў й не распытаўся. А тымчасам на ходніку водле паркану, якім абнесяна была хата ад вуліцы, праходзілі тры дзябёлыя хлапцы, і са шлянгу, што трымаў у руках Кастусь, (ён ня прыкмеціў у гутарцы з жонкай, а старыя ня добра чуўшы, гаманілі), — аж абдаў халоднай вадой тых фарсістых дзяцюкоў! . . .

Якраз тыя былі апраненыя ў белае і сьпяшаліся на тэнніс, — абросшыя і касматыя, як малпы. Каб убачыў іх Дарвін, дык меў бы жывы доказ сваей тэорыі. Абдадзеныя халоднай вадой хлапцы закрычалі й, пакідаўшы ракеты, пераскочылі праз паркан: адзін вырваў з рук няшчаснага пэнсыянэра шлянг з вадойі пачаў абліваць старога. Другі, схапіўшы на градцы ляжачую гачкудзябку, расьсёк ею ў трох месцах шлянг з вадой. Трэці трэснуў дзеда па твары — ажно той, паваліўшыся, згубіў акуляры! . . .

Сонца пацьмянела, птушкі зьнямелі, а патэфон далей грымеў нейкую бяздарную блытаніну.

Але Камароўская з гарачым імбрыком кінулася на помач мужу, які ўжо ўстаў і шукаў акуляраў. Хлапцы рагаталі, гледзячы на шалёную старуху. Але яна была з гатунку, якім пальца ў рот не кладзі і лінула на іх гарачай кавай! Ускочыў і муж, схапіў частку адрэзанага шлянгу і давай лупіць па галовах. Хлопцы выскачылі на ходнік праз паркан і, пагражаючы кулакамі, крычалі: гэта вам не праміненцца дарэмна! . . .

Суседзі Камароўскіх усё гэта бачылі, хоць і спачувалі старым, але ніхто ня прыбег на абарону.

Але бывалыя маладыя людзі адразу пайшлі да знаёмага доктара (тэніс можа і пачакаць!), які пісьменна пасьведчыў апарыны і гузы на галаве. Пасьля адбылася сустрэча з прыяцелям-адвакатам, дошлым і практычным у падобных справах.

Калі справа дайшла да суду, дык аказалася, што абвінавачаньне добра абаснавана, як па нотах. Было знайдзена восем сьведкаў, што бачылі, як нейкая жанчына аблівала вараткам няшчаснага юнака ў белай вопратцы, а сьведкі праходзілі міма той хаты. І аблітая кавай белая марынарка фігуравала на судзе ў доказ злачынства.

Да Камароўскіх прыходзіў адвакат пацярпеўшых хлапцоў і выясьніў ім, што ўсе факты супраць іх, дык толькі трэба ім ісці на міравую ў суме 800 даляраў: гэты можа ім памагчы, каб не трапіць у турму. (А тады яшчэ даляры ішлі ў высокім курсе). Значыць, Камароўскія спужаліся, што справа — не на жартачкі! Але блізкія суседзі адмовіліся сьветчыць, гаворачы, што нічога не бачылі. Праўда, некаторыя гаманілі, што ведаюць пра іхнюю нявіннасьць, аднак у казытлівую справу мяшацца ня будуць.

Так дзед і баба ня мелі сваіх сьветкаў і рашылі самі неяк бараніцца.

Памысна было тое, што судзьдзя быў чалавек практычны і ўжо меў нямала падобных труднасьцяў, дык ня дзівіўся, што хлапцы паставілі гэтулькі сьветкаў; а Камароўскія — ніводнага, бо мусіць яны з блізкімі ня вельмі ў суседзкіх адносінах? . . .

»Мы маніць ня будзем!« гаварылі Камароўскія. Але на судзе яны пачулі, як сьветкі баранілі хлапцоў, што іх Камароўскія білі і аблівалі вараткам кавы. Хлапцы і сьветкі голасна пратэставалі супраць прыездных эмігрантаў, што ўцяклі з усходу ад справядлівых камуністычных уладаў і цяпер у Аўстраліі ізноў падыймаюцца на мясцовых людзей. Адвакат таксама пацьвярджаў злачынства Камароўскіх.

Судзьдзя працягнуў справы на чатары дні і гаварыў пра справядлівасьць тутэйшага суду, аднак ня прызнаў Камароўскіх нявіннымі і засудзіў іх на сто даляраў кары — толькі таму, што старыя дзеілі ў парыве гневу . . . Але прытым і хлапцы сапраўды пацярпелі дый адзін мусіў зусім астрыгчы галаву, што з гэтага меў нямала сораму.

Камароўскім вельмі не хацелася трапіць у турму, дык цяпер асталося толькі выплаціцца за здуманыя шкоды для хлапцоў, — дык ня пратэставалі супраць прысуду . . .

Няраз мне бацька мой казаў: »Сынок, суд, як дышла, куды павернеш, туды й вышла!«

Так — то яно!

Жонка гаманіла мужу: »Было б зусім інача, каб нашымі суседзямі былі беларусы навокал«.

Але я падумаў: »Ну, было б інакш, але як? . . .«

Ч.-р

# ДЭЛЯТЫЦКІЯ ВЯЧОРКІ

Ціха. Надыходзіць вечар. Дзе-недзе гараць у хатах лямпы. Зморанья людзі аддыхаюць; але толькі мужчыны, бо жанчынам ніколі няма часу на адпачынак — заўсёды кратаюцца ля печы, а вольныя прадуць. Сягодня жанчыны і дзяўчаты нагараваліся на полі, а хлапцы — пры сплаве дрэва па Нёмане — на плытах.

Адна з дэлятыцкіх вуліц называлася Юрздыка; даходзіла амаль не да самай ракі. У 1952 годзе вясною здарылася вялізная паводка, так што ніжэйшыя хаты сутыкалі з вадою, а некаторыя ўжо купаліся, дый іншым пагражала зусім акунуцца аж да вакон ці глыбей! — Дык да гэтых даплывалі лодачкі-чайкі каб ратаваць дабро.

Якраз на гэтай вуліцы пражывала ўдава Іваніха і зьбіраліся ў яе вяскоўцы, бо да ўсяго Іваніха была багатая прыгожым народам, гадуючы сем дачок! А прытым якраз удаве ручыла й тое, што хлапцы нярэдка той-сёй падкіне возік дроў — да рэчы зіма здарылася вострая. Ды таксама дагадваліся добрыя людзі што нафта-карасіна была неабходная, каб у хаце грэла мацнейшая лампа і каб сьвяціла ня скупа, каб Іванісе чужым коштам магчыма было прасьці.

Хатка ў яе ня была прасторная, але гасьцінная, бо гаспадарная Іваніха ўмела ўтрымаць лад і бліск — ажно сьвяцілася чыстатою й парадкам: шырокімі ўздоўж лавамі, чысьценькім сталом і падлогаю. Але, на жаль, сяньня шмат людзей ня будзе, бо значны лік не вярнуліся з плытоў. Усё ж хатка красавалася прыгажунямі-дзяўчаткамі: Алеся, самая рэзвая, забралася ў глыбокі кут хаты, бо яна мае адказную работу — тчэ ўзоры слуцкіх паясоў, што вымагае нямала пільнасьці і ўвагі. А Люба дзярэ пух на падушку, бо ў місаед мае выйсьці замуж. А рагатуха Наста чамусьці сумная ... — Дзе ж ейны Кастусь? — дый апранулася па сьвяточнаму — ў белую вышываную блюзку, ў прыгожую ў кветкі спаднічку — чырвоныя макі. Вось яна сьцішка пачынае знаёмую журботную песьню:

»Ужо сонца за дубочкам —
Добра жыць нам з халадочкам,
Ужо сонца аж за грушаю, —
Пусьці жыць нас жывых з душаю! . .

Нібы туга? Нібы плач чуецца ў хаце? — Чаму сумна на сэрцы?

»Ой, ты, маліна: чырвона журавіна,
Ой, чаго плачаш, малада дзяўчына?
Ой, я плачу, дый сама не знаю,
Што мяне бярэш — Я тавару не маю, —
Ой, нямя ў мяне ні тавару, ні авец, —
Дык няма чаго заганяць у хлявец!

Які там пасаг — у хаце й есьці няма чаго. . . Сьпявай, дзеўка песьню — шчырую дый ласкавую! Голас у цябе прыгожы: голас у цябе высокі, звонкі — быццам ластаўка шчабеча ў ясны дзень. А ці ж мне плакаць увесь вечар? І запяяла на ўсю хату Алеся:

»А кум куму любіў, —
Чаравічкі купіў, —
І купіў і надзеў
І на жонку паглядзеў. —
Ой, кума, ай, кума,
Ты кругом хараша! . . .

А »таварам« — у нас называюць буйную хатнюю жывёлу. Падхапілі ўсе гучны прыпеў і стала крыху весялей. Што ні кажыце? А калі сьпяваеш, сам птушкай робішся.

Дэлятычы, Дэлятычы — гасьціннае мястэчка. Вельмі маляўнічае: у навакольлі лясы, лугі, вазёры і старое рэчышча Нёмана — »Старыца« — багатая балотнымі кустамі й буйнай травою, а таксама й асаблівай балотнай рыбаю, як ліны, карасі, ўюны, самы і інш. — ўсё гэтае прыцягвала рыбаловаў і аматараў лоўлі вудамі й сецямі ці асьцямі.

О, які ты дарагі мне цяпер, слаўны Нёман, чаго я тады ня ўмеў заўважыць і праходзіў абыякава! І колькі добрых успамінаў запісаў пра Нёман і пасьля друкаваў іх, прачуленых, як паэт і пісьменнік, пралат Пятро Татарыновіч! І колькі гадоў прамінула ад таго часу і як нашыя, эмігранцкія галасы ня гучаць на берагох нашай дарагой ракі! Аднак там расьце новае-другое й трэцьцяе пакаленьне нашае моладзі — чыстае беларускае і адзываюцца ў песьнях яе звонкія галасы, а рэха разносіць навакол, адбіваючыся у водах і лясох дый на ўзгорках над-нёманскіх!

*

Прыходзілі на вячоркі местачковыя хлопчыкі, бравыя; красуні чарнабровыя і жанчыны паважныя.

— А дзе ж Палюся, кума? — ці прышла, даражэнькая?

— Прышла, а нават прыбегла!

Бо Палюся — самая галоўная сьпявачка ў мястэчку: без яе ні вясельле, ні вячоркі не абойдуцца! Голас — што той званочак, а песень у яе уйма! Як засьпявае, дык яшчэ і

ў бокі возьмецца і ў круг выйдзе. А ў самой жа й дзеці дарослыя. Але што там узрост, калі песьня малодзіць душу!

Журчаць калаўроткі — ажно паддаюць такт песьням.

»А я ў печы не паліла,
Мілы мой, міленькі!
А я ў печы не паліла,
Галубок мой сівенькі!

Нібы жаліцца, нібы жартуе кума. А кум на гэта адказвае:

»Запалі, міла, запалі,
О, ха-ха,
Чарнабровая мая!

Тут усе падхопліваюць словы жартаблівае песьні. Музыка-весялуха стараецца разводзіць мяхі двух-радкі. Ну, цяпер сумаваць ня будзем, калі ўступіў у работу гармонік! А, ну, дзеўкі, прасьніцы — на печ! Сып, Янка, Лявоніху!

— А я, — ці не я сумавала?!

Песьні з вамі я — ці сьпявала? ... І зацягнула слаўём:

— А ў полі бяроза
Кудравая стаяла. —
А маці сыночка
Служыць выпраўляла.

Ідзі, мой сыночак,
Ды не забаўляйся:
Цераз два гадочкі
Дадому зьбірайся!

Добра ў роднай вёсцы, па вечарох гучаць у хаце Іваніхі старыя і новыя песьні. Жартуе моладзь на вячорках аб сваім прыгнечаным жыцьці, аб сваіх забабонах: складаюць песьні пад »панамі«, глыбока ў душы носячы спадчыну, што пакінулі нам бацькі. — Неяк раз зайшоў »палу-панок«, Антэк, сынок асадніка, што Пілсудзкі наткнуў на Беларусь, а хацеў ён уплесьці сваю песьню, як »салавей«, што коняў душыць:

»Плываюць голэмбі,
Лятаюць лабэндзі:

З нашэго коханя
Пэўна ніц ні бэндзі!? ...

Але тут Анютка-жартаўніца і ткнула яму: »Дзе ж ты, дурань, бачыў, каб галубкі плавалі?« Ну, і паднялі яго на сьмех, — дык больш ужо не заходзіў! ... — І я там бываў: разам песьні сьпяваў. І, бывала, як зайду, дык дзяўчаты і кажуць: Як наш Дзівак прыйшоў, супакою ў хаце ня будзе!

Аўстралія, сьнежань. 1975 г.

# З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

Тут падаём толькі некаторыя важнейшыя кнігі, якія ўбачылі сьвет у 1975 г. ў беларускай мове, за выняткамі аднэй кнігі Стукаліча:

*УНІВЭРСАЛЬНАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА* — брашура на 16 старонках у апрацаваньні др. Я. Пятроўскага і ў выдавецтве Я. і А. Пятроўскіх.

*Плятон. ВЫБРАНЫЯ ДЫЯЛЁГІ.* Пратагорас. Гіппіяс Вялікшы. З грэцкага тэксту на беларускую мову пераклаў, папярэдзіў уводзінамі й агледзіў камэнтарамі Ян Пятроўскі. Кніга мае 171 старонак, выйшла ў выдавецтве Я. і А. Пятроўскіх.

*Юрий Стукалич, МЫ ДОЙДЕМ.* Очеркі, рассказы, фельетоны. Выдавецтва Фонда Крэчэўскага. — Аб гэтай незвычайна цікавай кнізе напісаў добры артыкул А. Дречелукский у »Новым Русским Слове«, 1 чэрвеня 1975. Пераклад яго ў »Беларусе«, Нр. 219, 1975.

*Максім Гарэцкі, 3-ці ТОМ »ВЫБРАНЫХ ТВОРАЎ«,* у якім зьмешчаныя ведамага пісьменніка тыя творы, якія савецкая цэнзура выкінула са сваіх выданьняў. 3-ці том выйшаў у выдавецтве »Беларус«, Нью Ёрк. У ім надрукаваныя апавяданьні: »Рунь«, »Лірныя сьпевы«, »Патаёмнае«; аповесьць »Дзьве душы« і эпізод з аповесьці »Ціхая плынь« — »Бірка«.

*Рыгор Крушына, СНЫ І МАРЫ.* Зборнік вершаў. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1975.

*Масей Сяднёў, ПАТУШАНЫЯ ЗОРЫ,* Нью Ёрк — Мюнхэн, 1975. Зборнік вершаў. Старонак (нумераваных) 271.

*(Кастусь Мярляк), СПРАВАЗДАЧА ДЗЕЙНАСЬЦІ АМЭРЫКАНСКА-БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Сьвятога Кірылы Тураўскага* ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк, ад 1 лістапада 1974 г. да 31 кастрычніка 1975 г. Ратватарнае выданьне. Мае 12 разьдзелаў: Кіраўніцтва Прыходу, Агульная справаздача, Фінансовая справаздача, Канчатковая справаздача і білянс, Ліста прыхажанаў, Інвэнтар, Ліста ахвярадаўцаў грашыма, Ліста ахвярадаўцаў рэчамі, Ліста працаўнікоў пры будове (I-II), Фі-

нансавая справаздача Сястрыцтва, Бюджэт і план працы на 1976 г. — Гэтая брашура ёсьць рэдкасьцю, бо-ж дзеля розных прычын нашыя парахвіі каталіцкія і праваслаўныя неяк ня могуць знайсьці часу, каб паказаць чорна на белым грашовы стан, лік вернікаў, удзел іх у розных працах парахвіі і г. д. Управа парахвіі Сьв. Кірылы ў Рычмонд гэта зрабіла і варта яе за гэта пахваліць. Засьцярагаемся, што пры ўсім гэтым, што мы сказалі аб самой брашуры, мы не жадаем уваходзіць у нутраны строй парахвіі, у юрысдыкцыйную яе залежнасьць.

*KINDLERS LITERATUR LEXIKON* im dtv (Deutscher Taschenbuch Verlag), München, 1974. 25 tamoй. — Слоўнік гэты сусьветнай літаратуры на нямецкай мове мае назоў (Кіндлерс Літэратур Лехікон) ад імя яго выдаўцы і ёсьць фотомэханічнай рэпрадукцыяй папярэдняга выданьня ў 12 тамах, а паўстаў пад уплывам італьянскага выданьня Валентага Бомпіані: »Dizionario delle Opere di tùtti i Tempi e di tùtte le Letterature«, (Слоўнік твораў усіх часаў і ўсіх літаратураў). У апрацаваньні Слоўніка Літаратуры Кіндлерса прыняло удзел окала 300 фахоўцаў. У першых двох тамах падаецца ў кароткіх нарысах гісторыя панад 180 розных літаратураў. Нарыс пра беларускую літаратуру напісаў праф. Эрвін Кошмідэр, перад вайной прафэсар віленскага, а цяпер мюнхэнскага унівэрсытэту. (Нарыс зьмешчаны ў т. 2, стр. 386-389). Для праф. Кошмідэра Беларусь і яе гісторыя — гэта мяч у руках суседніх Беларусі дзяржаваў Польшчы і Расеі. Беларуская літаратура пачынаецца ад XV ст., пасьля таго, калі развалілася ўсходня-славянская кіяўская дзяржава. Зусім памінуўшы Скарыну ў вялікім скароце пераходзіць аўтар шкіцу да *»Тараса на Парнасе«*, беларускай *Энэіды*, успамінае Баршчэўскага, Рыпінскага, Чачота, П. Багрыма, Дунін-Марцінкевіча, Каратынскага, К. Каліноўскага, Сыракомлю і Багушэвіча. Далей успомніўшы пра »Нашу Ніву« і братоў Луцкевічаў даўжэй затрымоўваецца на Купале і Коласе, зусім памінуўшы Максіма Багдановіча. Назваўшы яшчэ Алеся Гаруна, Ядвігіна Ш. пераходзіць аўтар да пэрыяду савецкага рэалізму і тут называе некалькі іменаў: Танк, Крапіва, Кузьма Чорны, Лынькоў, Броўка, Глебка, Куляшоў. Вось гэта і ўвесь беларускі парнас на працягу стагодзьдзяў! У канцы шкіцу каля 15 твораў бібліяграфіі.

Згодна са схэматычным падыходам — дзіўным і арыгінальным — пачынаючы ад 3-га тому аж да 24 ўлучна ў альфабэтычным парадку падаюцца творы аўтараў. І так мы знайшлі ахарактэрызаваныя з бібліяграфічным дабаўкам некаторыя творы нашых паэтаў і пісьменнікаў, а менавіта: Бядулі — Язэп Крушынскі; Кузьмы Чорнага — Бацькаўшчына, Трэцяе пакаленьне; Дуніна-Марцінкевіча — Гапон; Якуба Коласа — Хата рыбака, Дрыгва, На прасторах жыцьця, На ростанях; Янкі Купалы — А хто там ідзе?, Адвечная песьня, Паўлінка, Раскіданае гняздо.

Што беларуская літаратура мае сваё асобнае месца у гэтым Слоўніку-Энцыкляпэдыі сусьветных літаратураў справа ня нейкага выпадку. Яна на гэта поўнасьцю заслугоўвае. Зрэшты працы ў розных мовах пра беларускую літаратуру ёсьць гэтага доказам. Нажаль паважаны прафэсар Кошмідэр дзеля нейкіх прычынаў *(магчыма па старасьці)* »не заўважыў« сланоў, як Скарына, Максім Багдановіч, Куляшоў, Дубоўка, Брыль, Быкаў і цэлае пляяды малодшых *паэтаў*. А таксама зусім памінуў эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў: Алеся Салаўя, Сяднёва, Арсеньневу, Віцьбіча. Калі называе галоўныя творы аўтараў, прыкладам Коласа, дык ня ўспомніў »Новай Зямлі«! Выглядае, што аўтар таксама незнаёмы з анталёгіяй Веры Рыч, з журналам на ангельскай мове. Таму прыходзіцца сказаць, што нарыс пра беларускую літаратуру і некаторыя успомненыя творы маюць вельмі шмат недахопаў, а гэтым самым абядняюць яе. —

УПРАВА Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане зьвяртаецца да суродзічаў з просьбай прысылаць беларускія цэннасьці, як манэты, рукапісы, друкі, здымкі і інш. на адрас:

THE FRANCIS SKARYNA BYELORUSSIAN LIBRARY,
37 HOLDEN ROAD, LONDON, N12 8HS

*Юрка ГОЛУБ*

**БЕЖАНЦЫ**
**(1916)**

Тамбоў.
Агорклая губерня ...
Няўмольнасць злосная завей.
А дзесь далёка родны бераг,
Далёкі, быццам запавет.

Курыўся пыл на шэры быльнік,
На пальцы трэснутыя ног,
Драбін парэпаныя білы,
Калдобы змучаных дарог.

Паравозы, паравозы ...
Дымы, як людзі, сняць спачын.
Зямля круцілася пад возам
Пад плач калёсаў і жанчын.

О беларусы! Белы, русы ...
Няўмольнасць сцежак і пакут.
Сасна-падлетак стане брусам,
Выгнанне цягнецца пакуль.

Пустыя вёскі ... агароды ...
Пустыя торбы і сады.
А на зямлі, да болю роднай,
Сляза дажджу,
Туману дым.

(Са зборніка *»Гром на зялёнае голле«*, Мінск, 1969.)

*Яўгенія ЯНІШЧЫЦ*

**ВЯЧЭРНІЯ РАДКІ**

Забыць на момант дробязі
і гора,
І свет чытаць нанова, па складах,
І ў непагадзь шукаць сабе надвор'я
У музыцы,
у людзях,
у радках.
Зліюся непадзельна з мовай ночы
Далей ад чутак і перасцярог,
Аж цемната пакуль не выесць вочы
І першы промень выдаць не захоча
Па-здрадніцку — ад галавы да ног.
Ну, а пакуль дыктуе сябра-вечар
Мне лініі няўлоўных часам рыс.
І вобраз нада мной ужо трапеча
Адноўлена, нібы вясновы ліст.
Сама ў сябе, як след, яшчэ не веру.
Ды словы распускаюцца, як мак.
І падае на белую паперу
Наспеўшай думкі старажытны знак.

(Са зборніка: *»Снежныя грамніцы«*, які выйшаў у сэрыі »Першая кніга паэта«, выдавецтва »Беларусь«, Мінск, 1970.)

*Генадзь ТУМАС*

* * *

Знаходзілі ў зямлі маёй
манеты халіфата,
Манеты Рыма,
Залатой Арды.
Віталі
ў скарбах закарузлых
нумізматы
сівой мінуўшчыны
гады.
Пазбаўленыя
вокісаў і нарасці,
глумлівай
шматвяковай старасці,
дапісвалі
гісторыю
манеты,
манетныя легенды
і партрэты.
Для іх ніколі сейфам небыла
мая неператожная зямля.
Яна суніцай цёплай
барвавела,
красою жытняю
курэла
і праз стагоддзі
скарбы берагла.

(Са зборніка: »Лінкос«, Мінск, 1970.)

## ЗЬМЕСТ



*Printed by the Ukrainian Publishers Limited 200 Liverpool Rd., London, N1 1LF.*